ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 38 (2617)
ПЯТНІЦА
22
верасня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.




Сем дзён на гасціннай беларускай зямлі гучалі натхнёныя словы паэтаў і празаікаў з усіх братніх рэспублік Савецкага Саюза. Сем дзён верасня ўмясцілі ў сабе мноства сустрэч, гутарак, усмешак, кветак, добрых слоў. Завяршэннем Тыдня літаратур народаў СССР у Беларусі было вялікае свята паэзіі на радзіме нашага народнага паэта Якуба Коласа. Тут, у маляўнічым урочышчы Дубы на беразе Нёмана, сабраліся ўсе ўдзельнікі свята, каб сваім паэтычным словам уславіць адзінства і дружбу нашых народаў.

Справаздачу са свята паэзіі ў Мікалаеўшчыне чытайце на стар. 2—3.

50 год утварэння СССР

ТЫДЗЕНЬ ЛІТАРАТУР НАРОДАЎ СССР У БЕЛАРУСІ

# ПЕСНІ БРАЦТВА НАД НЁМАНАМ

## Свята паэзіі ў Мікалаеўшчыне

СОНЕЧНАЙ дарогай брацкіх сустрэч прайшоў па Беларусі Тыдзень літаратур народаў СССР, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння Савецкага Саюза.

Мінск і Брэст, Віцебск і Гродна, Гомель і Магілёў як самых блізкіх сяброў сустракалі пасланцоў шматнацыянальнай літаратуры краіны — пісьменнікаў і паэтаў Масквы, Ленінграда і ўсіх саюзных рэспублік. Мінулі шэсць яркіх дзён, якія ўзбагацілі пісьменнікаў і паэтаў, падарылі радасць вочнага спаткання з аўтарамі любімых кніг дзесяткам тысяч працаўнікоў гарадоў і вёсак.

На сёмы, заключны дзень дарогі ўдзельнікаў тыдня сышліся на крутым беразе імклівага Нёмана, у вёсцы Мікалаеўшчына.

...Ёсць месцы на роднай зямлі, непарыўна звязаныя з самім народным лёсам, акружаныя любоўю мільёнаў. Ёсць яны ў рускіх і ўкраінцаў, ва ўзбекаў і азербайджанцаў — у кожнага народа. Для беларусаў адным з такіх месц па праву стала нічым вонкава непрыкметная вёска над Нёманам. Тут, каля Мікалаеўшчыны, у сям'і паўпісьменнага лесніка, 90 гадоў назад нарадзіўся Якуб Колас — паэт, аб імені якога разам з імёнамі буйнейшых пісьменнікаў іншых народаў. сёння яшчэ ў школе даведваецца не толькі беларус, але і яго равеснік ва ўсёй неабсяжнай нашай краіне.

Тут будучы паэт упершыню ўдыхнуў паветра Радзімы, убачыў прыгажосць і горыч роднай зямлі, дзе

**Чуў не раз у чыстым полі**
**Плач і слёзы бедака.**

Талент, памножаны на вернасць народу, высокая партыйнасць радкоў і спраў вылучылі Якуба Коласа ў сцяганосцы маладой савецкай беларускай літаратуры. Ён быў і застанецца любімым народным паэтам.

Раніцай 17 верасня жывымі ручаямі пацяклі да Мікалаеўшчыны людскія натоўпы. Столькі паклоннікаў паэтычнага слова, колькі прыйшло сюды ў гэту раніцу, Мікалаеўшчына даўно не бачыла. З Мінска і Стоўбцаў, Нясвіжа і Барысава, з Негарэлага і Дзяржынска, з далёкіх і блізкіх вёсак спяшаліся сюды тысячы людзей — землякоў вялікага паэта.

Землякамі Коласа па праву могуць лічыць сябе і дарагія госці, якіх гаспадары свята сустракалі на граніцы Дзяржынскага і Стаўбцоўскага раёнаў на шашы Мінск—Брэст.

Пісьменнікі Расіі маюць права лічыць Якуба Коласа сваім земляком таму, што руская зямля была гэтак жа блізкая яму, як родныя прасторы, а вялікая руская літаратура стала для яго галоўнай і мудрай школай майстэрства.

Украінскія пісьменнікі — таму, што была іх Радзіма, іх літаратура горача любімая Коласам — натхнёным перакладчыкам вершаў вялікага кабзара.

Узбекскія пісьменнікі — таму, што ў суровую ваенную часіну іх сталіца стала другім домам Якуба Коласа.

**Я ўсім нутром, душой адчую**
**Тваіх яснот цяплынь.**
**Я промень сонца пацалую**
**З узбекскіх далячынь,**

—пісаў Колас у час вяртання з Ташкента на вызваленую зямлю Беларусі.

У сэрцы паэта-інтэрнацыяналіста, у яго вершах жыла палымяная любоў да кожнага народа краіны, да савецкага брацтва, выкаванага партыяй Леніна. Вопытам жыцця спасцігнуў Колас, што без магутнай Расіі не ведаць бы яго народу шчасця, што толькі адзінства народаў СССР, іх агульны ратны подзвіг вызвалілі яго Беларусь з фашысцкай няволі, а агульны працоўны подзвіг уваскрэсіў яе спаленыя гарады і вёскі.

**Дружбай народаў магутна краіна.**
**Моц наша ў згодзе святой.**
**Будзь жа шчаслівa ты, наша пуціна,**
**Вечна свяці яснатой!**

—пісаў народны паэт. Гэта сапраўды шчаслівая дарога і прывяла пісьменнікаў многіх народаў краіны на радзіму Коласа, да яго бацькоўскага дома.

Хлебам-соллю прывецілі гасцей гаспадары. Для іх выканалі свае мелодыі народныя цымбалісты з калгаса «Ленінскі шлях» Дзяржынскага раёна, а дзяўчаты са Стаўбцоўскага Дома культуры выканалі радасную «Прывітальную» песню і народныя танцы.

Гэта сустрэча на дарозе была нібы ўступам у свята.

Пасланцы дзесяткаў нацыянальных літаратур, сыны і дочкі вялікіх і малых народаў — удзельнікі тыдня ўсклалі кветкі ля адкрытага ў Мікалаеўшчыне помніка, з высокага п'едэстала якога глядзіць на родныя прасторы Якуб Колас — паэт-грамадзянін, пясняр брацтва савецкіх людзей.

Госці агледзелі філіял літаратурнага музея Коласа ў Мікалаеўшчыне, з глыбокай пашанай прайшлі пад ліпамі, пасаджанымі яго рукамі, па месцах, якія любіў, ніколі не забываў і пранікнёна ўславіў Якуб Колас.

А ў поўдзень тысячы паклоннікаў паэзіі сабраліся ва ўрочышчы «Дубы» на самым беразе Нёмана.

Пад авацыю прысутных першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР народны пісьменнік рэспублікі Іван Шамякін аб'яўляе аб адкрыцці свята паэзіі, якое завяршае Тыдзень літаратур народаў СССР у Беларусі.

Першае слова на свяце—пасланцу вялікай рускай літаратуры, традыцыі, вопыт, геніяльныя творы і прыклад якой — пуцяводны маяк для пісьменнікаў усіх народаў.

Кіраўнік пісьменніцкай дэлегацыі Расійскай Федэрацыі вядомы савецкі раманіст Віталій Закруткін перадае ўсім прысутным на свяце гарачае прывітанне ад пісьменнікаў Расіі і шматлікіх паклоннікаў беларускай літаратуры, якія жывуць па ўсёй краіне.

— Мы, ўдзельнікі Тыдня літаратур народаў СССР у Беларусі, радуемся таму, што змаглі пазнаёміцца з гераічнай беларускай зямлёй, яе цудоўнымі людзьмі, выдатнымі працаўнікамі,—гаворыць ён. — Мы ганарымся тымі поспехамі, якіх дасягнуў беларускі народ, і ўсведамляем, што гэта стала магчымым толькі дзякуючы вялікай дружбе, узаемадапамозе і падтрымцы ўсіх народаў нашай шматнацыянальнай краіны.

Слаўныя працоўныя справы, з якімі мы пазнаёміліся ў час наведання гарадоў і вёсак, прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў Беларусі, — працягвае Віталій Закруткін, — натхняюць нас, пісьменнікаў і паэтаў, на стварэнне новых твораў аб вялікім брацтве ўсіх народаў Савецкага Саюза, аб бессмяротнай дружбе, змацаванай крывёй на палях грозных бітваў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Мы ганарымся тым, што толькі ў нашай краіне пісьменнікі атрымалі магчымасць так блізка і часта сустракацца са сваімі чытачамі ў любым кутку Савецкага Саюза. І ўсюды, дзе б ні пабывалі пасланцы шматнацыянальнай сям'і нашых пісьменнікаў, яны сустракаюць самае поўнае ўзаемаразуменне. Жывое слова паэзіі, аповесці, рамана, на якой бы мове ні тварыў яго аўтар, знаходзіць шлях да сэрца кожнага народа. Гэта з новай сілай адчулі мы ў дні Тыдня брацкіх літаратур у Беларусі.

Гэтыя словы ярка пацвердзіла і сустрэча, аказаная ўдзельнікамі свята народнаму паэту Калмыкіі Давіду Кугульцінаву. Далёка ад Беларусі яго родная Эліста, дзе жыве і творыць ён. Але спадабаліся беларусам яго натхнёныя вершы, знаёмыя ім па перакладах на рускую і беларускую мовы.

Давід Кугульцінаў прачытаў новыя вершы аб вялікім савецкім брацтве і яшчэ — аб самой працы паэта-грамадзяніна:

**Когда с неистовым ты ищешь рвеньем**
**То вещество, что может запылать,**
**И дума стать готова откровеньем,**
**Чтоб радовать людей и волновать.**
**Тогда бумагу, жаждующую истин,**
**Ты напои, ты жизнь в неё вдохни,**
**Найди эпитет и глагол единственный**
**И строки напряженные замкни.**

Аб гэтым пошуку адзіных, самых дакладных і яркіх слоў, з якіх толькі і нараджаецца сапраўдная літаратура, гаварыў і вядомы ўкраінскі пісьменнік Аляксей Палтарацкі.

Ля мікрафона вядомы беларускі празаік Іван Мележ.

— Мне хочацца ад усяго сэрца перадаць нашым дарагім гасцям-літаратарам усіх саюзных рэспублік, якія прымалі ўдзел у Тыдні брацкіх літаратур, словы гарачай любві і ўдзячнасці за цеплыню сустрэч, — гаворыць ён. — У гэтыя дні на радзіме Купалы і Коласа мы больш пазналі адзін аднаго, умацавалі вузы нашай творчай садружнасці.

Сённяшняе свята паэзіі на роднай зямлі вялікага песняра нашага роднага краю—сапраўды інтэрнацыянальнае. Як бы парадаваўся цяпер наш Якуб Колас, які праз усё жыццё пранёс любоў да вялікай рускай літаратуры і многае зрабіў для перакладаў на нацыянальную мову твораў рускай класікі. Свята ж сабрала на беразе сівога Нёмана ля яго роднай хаты прадстаўнікоў усёй шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Гэта сведчанне нашай вялікай і непарыўнай дружбы.

— Дарагія сябры, родныя мае беларусы! — так пачаў сваё выступленне казахскі паэт Кайрат Жумагаліеў. — Брацкае цяпло, зведанае мною на вашай зямлі, дае мне права сказаць: родныя мае!

Ён чытае вершы, народжаныя ў дні тыдня, пад уражаннем сустрэч з народам Беларусі, яе радаснай навіной.

Слова — вядомаму рускаму паэту-песенніку Віктару Бокаву.

— За час знаходжання ў брацкай Беларусі, — гаворыць ён, — кожны з нас глыбока адчуў не толькі шчодрую гасціннасць, але і дарагія рысы душы яе народа — велізарную працавітасць, гатоўнасць да подзвігу і вялікую цягу да цудоўнага. Нам, гасцям рэспублікі, нібы адкрылася і першапрычына ўсіх цяперашніх поспехаў Беларусі — у навуцы і

# Будні мастакоў

## У майстэрні Андрэя Бембеля

Народны мастак Андрэй Бембель — з тых, што закладвалі падмурак школы беларускай скульптуры. Апошнія дваццаць гадоў ён узначальвае кафедру скульптуры ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце.

А чым заняты майстар у сваёй майстэрні?

— Цяпер я разам з архітэктарам Валянцінам Занковічам выконваю заказ салігорцаў, — расказвае Андрэй Ануфрыевіч, — мы робім помнік Уладзіміру Ільічу Леніну для гэтага маладога беларускага горада. Помнік будзе вырашаны спецыяльна для галоўнай магістралі Салігорска. Ён стане на пляцоўцы, якая прымыкае да цэнтральнай плошчы горада, каля парку. З плошчаю помнік створыць адзіны комплекс.

— З якога матэрыялу будзе зроблены помнік?

— Пакуль што гэтае пытанне застаецца адкрытым. Дакладна толькі ўстаноўлена, што матэрыялаў будзе два. На цокаль пойдзе, відаць, граніт. Ну, а сама фігура— ці то з бронзы, ці то з літавой сталі... Пэўна сказаць пакуль што нельга.

— А даўно ўжо працуеце над праектам?

— Год... Перабраў масу варыянтаў, зрабіў шмат мадэляў. Ужо блізкая да завяршэння рабочая мадэль помніка...

— А калі паўстане помнік?

— У наступным годзе.

...На адным са станкоў у майстэрні скульптара — вялікі бюст Янкі Купалы. Праца над ім у самым разгары: карычневата-чорная паверхня яшчэ няроўная, нібы пакрытая адмысловымі ўсплескамі — яна, здаецца, выпраменьвае неспакой пошукаў мастака...

— А гэта па чыім заказе?

— Ні па чыім, — усміхаецца Андрэй Ануфрыевіч, — гэта — для сябе. Мяркую паказаць на выстаўцы, прысвечанай 50-годдзю СССР. Я даўно ўжо маю на мэце стварыць партрэт дарагога для мяне Купалы... І вось, нарэшце...

— Але ж гэта, мабыць, не апошні ваш зварот да вобраза?..

— А тут ужо, даруйце, мая кухня, так сказаць, мае сакрэты...

Што ж, сакрэты майстра—ёсць сакрэты. Аднак так ці інакш з часам майстар раскрывае іх.

Пачакаем...

**М. КРУПКО.**

## ГРАВЮРЫ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

*У выдавецтве «Беларусь» у рэдакцыі выяўленчай прадукцыі атрыманы сігнальны экземпляр кнігі «Гравюры Францыска Скарыны».*

*Тут сабраны рэпрадукцыі гравюр, заставак, буквіц славутых скарынінскіх выданняў. Прычым, дадзены яны ў натуральную велічыню, а фрагменты павялічаны.*

*Фотарэпрадукцыі і фотарэстаўрацыю гравюр зрабіў П. Захарэнка. Уступны артыкул, сістэматызацыю гравюр і мастацтвазнаўчы аналіз правёў Л. Баразна. Навуковыя рэдактары выдання — доктар філалагічных навук А. Жураўскі, кандыдат мастацтвазнаўства П. Масленікаў, кандыдат гістарычных навук Г. Штыхаў. Мастацкае афармленне У. і М. Басалыгаў.*

*5.000 экземпляраў унікальнага выдання друкуюцца на паліграфічным камбінаце імя Я. Коласа.*

## У ГОНАР 50-ГОДДЗЯ СССР

**Слаўнай даце ў жыцці краіны прысвячаецца выстаўка твораў выяўленчага мастацтва, якая днямі адкрыецца ў выставачнай зале Гомельскага аддзялення Саюза мастакоў БССР.**

**У экспазіцыі будзе прадстаўлена каля васьмідзесяці работ мастакоў Гомельшчыны. Новыя творы пакажуць Д. Алейнік, М. Казакевіч, А. Осіпаў і іншыя. Сярод экспанентаў— старэйшы мастак Гомельшчыны, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Б. Звінагродскі.**

**Новыя работы пакажа таксама гомельскі скульптар Д. Папоў.**

## З НАВІНАК БЕЛАРУСКАЙ СЦЭНАГРАФІІ

Новы тэатральны сезон. Новыя спектаклі. Новыя работы рэжысёраў, акцёраў, мастакоў... Наш карэспандэнт звярнуўся да галоўнага мастака Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Армена Багратавіча Грыгар'янца і папрасіў расказаць, над чым працуюць сёння для тэатра майстры сцэнаграфіі.

— Рыхтуецца да пастаноўкі сатырычная камедыя Андрэя Макаёнка з умоўнаю назваю «Таблетка пад язык». Яе будзе афармляць Барыс Герлаван. П'есу мы атрымалі зусім нядаўна. Праца над ёю — у пачатковай стадыі. Барыс Герлаван з рэжысёрам Барысам Луцэнкам яшчэ толькі падступаюць да шляхоў увасаблення аўтарскай задумы...

— А ці ёсць ужо блізкія да завяршэння новыя работы?

— Ёсць... «Лесвіца славы» па п'есе французскага драматурга Эжэна Скрыба... Блізкая да завяршэння і праца над афармленнем спектакля па п'есе Барыса Васільева «Вясёлы тракт». Абедзве гэтыя рэчы ставіць рэжысёр Валерый Раеўскі, а дэкарацыі раблю я...

— Раскажыце пра іх больш падрабязна, калі ласка...

— «Вясёлы тракт» — п'еса пра моладзь, пра тых, хто працуе ў тайзе... Тут ёсць пэўная небяспека для мастака: можна захапіцца экзотыкаю і так стварыць дэкарацыі, што яны зрабілі б непрыкметнай на сваім фоне ігру акцёраў. Я ж лічу, што тэатральны мастак, з'яўляючыся адным з сааўтараў спектакля, не мае права рабіць штосьці «абсалютна самастойнае», тварыць без «аглядкі» на рэжысёра, на акцёра, на драматурга... Вось чаму дэкарацыі да «Вясёлага тракта», як, зрэшты, і да іншых спектакляў, мы стараемся выканаць нібы на паўтанах...

— А «Лесвіца славы»?..

— Скрыбаўская «Лесвіца славы» ўжо даўно шырока вядомая. У яе пастаноўцы і афармленні паспелі скласціся пэўныя традыцыі. Мы імкнемся гэтыя традыцыі абысці, расставіць сучасныя акцэнты. Спектакль толькі тады па-сапраўднаму закранае гледача, калі глядач убачыць, адчуе якуюсьці пераклічку з сённяшнім днём... І мы пастараліся адсунуць «этнаграфічнасць» на задні план, а вылучыць, так сказаць, агульназначныя моманты...

— У чым жа гэта праявілася канкрэтна?

— Гм!.. Гэтага так ужо не растлумачыш, прыходзьце паглядзець спектакль.

Звыш адзінаццаці мільёнаў картак складаюць каталогі і картатэкі бібліятэкі. Каля 30 тысяч розных даведак выдае бібліятэка за год міністэрствам, установам, арганізацыям, асобным чытачам.

Навукова-даследчая работа засяроджана на важнейшых праблемах бібліятэказнаўства і бібліяграфіі. На працягу шэрагу год вядуцца даследаванні такіх тэм, як «Работа бібліятэк у дапамогу камуністычнаму выхаванню», «Што чытае рабочая і сельская моладзь», «Выкарыстанне бібліяграфіі і прапаганда бібліяграфічных ведаў у бібліятэках БССР», «Вывучэнне і ўпарадкаванне сеткі бібліятэк рэспублікі», «Камплектаванне кніжных фондаў бібліятэк» і інш.

Павялічваецца аб'ём выдавецкай дзейнасці бібліятэкі. Напрыклад, летась было выдадзена 38 назваў работ аб'ёмам 450 друкаваных аркушаў тыражом звыш 100 тысяч экземпляраў.

У бібліятэцы 12 чытальных залаў са сваімі спецыялізаванымі фондамі для навуковых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, студэнтаў, работнікаў літаратуры і мастацтва, юнацтва і г. д. Па заяўках чытачоў з асноўнага кнігасховішча бібліятэкі штодзень паступае ў чытальныя залы больш за дзве тысячы розных выданняў.

Зойдзем і мы ў чытальныя залы бібліятэкі.

Аддзел беларускай літаратуры і бібліяграфіі абслугоўвае спецыялістаў розных галін ведаў, выкладчыкаў інстытутаў і школ, якія вывучаюць гісторыю, літаратуру, культуру, мастацтва, эканоміку нашай рэспублікі.

У цішы чытальных залаў, за столікамі — вядомыя вучоныя, пісьменнікі, студэнты-дыпломнікі.

У агульнай чытальнай зале — 500 месц. Зранку і да позняга вечара ў ёй паўнютка чытачоў. За адным сталом сядзіць студэнт пятага курса радыётэхнічнага інстытута М. Анішчанка. Ён працуе над курсавой работай па аўтаматыцы і тэлемеханіцы. Перад ім чарцяжы, розныя табліцы, падручнікі, даведнікі. Крыху далей — рабочы Мінскага завода шасцерняў П. Сіроцін, ветэран трактарнага завода, рацыяналізатар П. Іваноў... У кожнага свой клопат, свае патрэбы.

**Мікалай АНІШЧАНКА,**
студэнт:

**— Я нарадзіўся ў Быхаўскім раёне. Любіў хадзіць у сваю пасялковую бібліятэку. А вось трапіў у Ленінку і на першым часе разгубіўся. Уразіла мяне дасканалая сістэма каталогаў, шматлікія чытальныя залы і выстаўкі кніг, адукаваныя людзі, якія гатовы адказаць на любое пытанне. За гэта ім вялікае дзякуй. Нізка схіляю галаву перад іх цярплівасцю і ўменнем абыходзіцца з чытачом, бо і сярод нас ёсць розныя людзі...**

**Валерый СЛЮЧЭНКА,**
архітэктар:

**— Працую ў спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных майстэрнях Міністэрства культуры БССР. Работа творчая, цікавая. Наш абавязак захаваць, рэстаўрыраваць помнікі архітэктуры. Іх вечная каштоўнасць гаворыць нам і пра мінулае, і пра сучаснасць, і пра будучыню... Таму я зараз займаюся вывучэннем антычнай эстэтыкі. У бібліятэцы знаходжу поўнае ўзаемаразуменне...**



Супрацоўнікі бібліятэкі Н. Е. Грычук (злева) і І. В. Смыкава ў сховішчы старадрукаванай і рэдкай кнігі.
Фота Ул. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА).

У аддзеле мастацтва працуе выкладчыца Маладзечанскага музычнага вучылішча, студэнтка - завочніца кансерваторыі Г. Іёда. Сёння яна занята вывучэннем творчасці П. Чайкоўскага. Чытае, канспектуе патрэбную літаратуру, а пасля праслухоўвае творы кампазітара.

Рэгулярна наведваюць аддзел старшы рэдактар музычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання А. Зарубанаў, кампазітар Р. Сурус, мастакі Н. Паплаўская і М. Данцыг і многія іншыя. Сярод чытачоў бібліятэкі звыш 6 тысяч навуковых работнікаў, 1500 работнікаў культуры, звыш 10 тысяч студэнтаў і столькі ж інжынерна-тэхнічных работнікаў і г. д.

**Валерый МНАЦАКАНАЎ,**
дырыжор:

**— У адным са святочных канцэртаў, прысвечаных 50-годдзю СССР, будзе выконвацца арыя Малхаза з оперы «Даісі» Палеашвілі ў маёй апрацоўцы. Зараз у Ленінскай бібліятэцы займаюся аркестроўкай. Маю тут магчымасць прайграваць музыку. А яшчэ вывучаю творчасць армянскага кампазітара, вучонага, харавога дырыжора, музычнага дзеяча Камітаса. Карыстаюся рэдкімі даваеннымі выданнямі, нотным фондам.**

Паспяхова развіваецца і міжбібліятэчны абанемент. Звыш 1200 бібліятэк рэспублікі карыстаецца фондамі Ленінкі. Пашыраюцца міжнародныя сувязі. Вядзецца абмен са 153 бібліятэкамі і навуковымі ўстановамі 29 зарубежных краін.

Свята Ленінкі — гэта свята нашай культуры, свята бібліятэкараў, шматмільённай арміі чытачоў.

**Я. ДАНСКАЯ.**

*З пошты ЛіМа*

# ПРАЦЯГ АПОВЕСЦІ

На імя пісьменніка Паўла Кавалёва прыйшло пісьмо з вёскі Сяледчыкі, што непадалёку ад Мінска. Васьмідзесяцігадовы Ігнат Ільіч Шарэнда пісаў, што гэтым летам прыязджалі яго дзеці Сярожа і Віля, якіх ён не бачыў дваццаць восем год. Два рускія браты і беларускі селянін Ігнат Ільіч Шарэнда — прататыпы герояў кнігі П. Кавалёва «Аповесць пра добрае сэрца».

...У сумятні першых дзён вайны афіцэр-пагранічнік Васіль Піліпавіч Лялін не паспеў эвакуіраваць сваю сям'ю. Паранены ў нагу, кантужаны ў час паветранага налёту фашысцкіх сцярвятнікаў, ён знаходзіўся ў лесе непадалёку ад Ліды. Разам з ім былі яго дзеці — сямігадовы Віля, пяцігадовы Сярожа і жонка Лена, якая чакала дзіця. Калі самалёты зніклі, Лена пайшла ў бліжэйшую вайсковую часць па машыну. Знайшла яе не скора. Калі прыехала да таго месца, дзе пакінула мужа і дзяцей, там нікога не было. Параненага Васіля Піліпавіча, Сярожу і Вілю падабралі нашы танкісты і давезлі да Радашковічаў. Але там былі немцы. Нічога не заставалася, як адправіцца пешшу да вёскі Сяледчыкі, дзе знаходзілася наша войска. Не даходзячы да вёскі, Васіль Піліпавіч пакінуў дзяцей у пуні, а сам пайшоў у санчасць. А па дарозе ад моцнага болю ён страціў прытомнасць. Яго падабрала веставая бронемашына. Калі апрытомнеў, Сяледчыкі засталіся далёка за лініяй фронту, там гаспадарылі фашысты. Так сям'я Ляліных аказалася раз'яднанай.

Васіль Піліпавіч трапіў у шпіталь, жонка прабіралася на ўсход, а Віля і Сярожа засталіся на акупіраванай ворагам тэрыторыі, дзе не было ні родных, ні знаёмых. Ад голаду знясілелі так, што не маглі рухацца.

Быццам у сне яны ўбачылі аднойчы над сабой незнаёмага чалавека. Ён штосьці распытваў у іх, потым знік і зноў з'явіўся з нейкай жанчынай. Яны ўзялі на рукі дзяцей і прынеслі дамоў. Праз некаторы час Вілю адвезлі да знаёмых у суседнюю вёску, а меншага Сярожу вырашылі пакінуць у сябе.

Цэлы месяц выходжвалі яго. Не забывалі і Вілю, часта наведвалі хлопчыка.

Цяжка было сям'і Шарэнды: сваіх трое дзяцей, ды яшчэ Сярожа. Да таго ж пастаянная небяспека — быў дэпутатам райсавата, а тут яшчэ дзеці чырвонага камандзіра... Што калі хто-небудзь даведаецца?.. Сапраўды аднойчы ноччу ў хату ўварваўся памочнік старасты і загадаў, каб да раніцы прывезлі дзяцей на зборны пункт. Толькі з дапамогай добрых людзей удалося зберагчы іх. Але хваляванні на гэтым не закончыліся. Доймаў сваімі роспытамі стараста, усё дапытваўся, чые дзеці...

На шчасце, у лясах з'явіліся партызаны. Звязаўшыся з імі, Ігнат Ільіч адчуў сябе больш упэўнена. Чым мог дапамагаў ім. Выконваў заданні партызан, папярэджваў аб нямецкіх засадах, дапамагаў ядой і адзеннем. І так да вызвалення.

Бязмежна радасным быў дзень, калі праз Сяледчыкі праходзілі савецкія войскі. Хлебам-соллю сустракалі воінаў-вызваліцеляў, запрашалі ў хаты, частавалі.

У хату Шарэнды зайшоў афіцэр і папрасіў напіцца. Яму падалі конаўку малака. Афіцэр п'е, а сам вачэй не спускае з Сярожы. Потым раптам пазваў хлопчыка:

— Сярожа, сынок... Жывы... Я ўсе вёскі абышоў, усё распытваў...

Даведаўшыся, што і Віля дагледжан, маёр Лялін расчулена дзякаваў Ігнату Ільічу і Марыі Мікалаеўне, а потым прыехаў разам з жонкай, якую сустрэў на Смаленшчыне, і забраў дзяцей. Уся вёска праводзіла шчаслівую сям'ю.

Сумны вяртаўся са станцыі Ігнат Ільіч. У вушах усё стаяў голас Сярожы: «Дзядуля, я вярнуся да цябе...»

З таго часу мінула дваццаць восем гадоў. Пасівелі валасы Ігната Ільіча. Сярожа стаў выкладчыкам Кіраўскага педінстытута, Віля працуе электрыкам на адным з маскоўскіх заводаў. Многае сцёрлася ў памяці, але не забываецца бязмерная дабрата чалавека.

**Пётр ЮДО,**
рэдактар радыёгазеты Мінскага падшыпнікавага завода.

**ВОДГУКІ, АДКАЗЫ**

# НА РЫНКУ І ВАКОЛ РЫНКА...

**Пытанні, узнятыя ў артыкуле «На рынку і вакол рынка» (ЛіМ», 26 мая 1972 г.) уважліва вывучаны і разгледжаны Міністэрствам гандлю БССР.**

**Для павышэння якасці гародніны, якая прадаецца насельніцтву, 200 садова-гароднінных магазінаў пераведзены на прамыя сувязі з прыгараднымі малочна-гароднніннымі саўгасамі, адкуль гародніна завозіцца адразу ў магазіны.**

**Для пашырэння прамых сувязей гандлёвым арганізацыям прапанавана наладзіць справу так, каб пастаўляць раннюю гародніну і зяляніну, ягады і раннюю садавіну непасрэдна ў розначную сетку, абмінаючы гарадскія базы і склады.**

**З мэтай прадухілення продажу ў рознічнай сетцы гародніны, фруктаў, ягад, вінаграду, якія страцілі сваю якасць, кіраўнікам гандлёвых арганізацый і гандлёвых прадпрыемстваў дазволена ўцэньваць гэтую прадукцыю.**

**Для захавання свежасці гародніны і зяляніны многія садова-гароднінныя магазіны маюць ахаладжальныя ёмкасці. Праводзіцца работа па забеспячэнню ўсёй спецыялізаванай стацыянарнай рознічнай сеткі і сховішчаў халадзільнымі ўстаноўкамі, што дасць магчымасць скараціць страты і палепшыць якасць прадукцыі.**

**Міністэрства гандлю БССР прыняло меры па пашырэнню рознічнай сеткі продажу садавіны, гародніны і бульбы. Зараз гэтая прадукцыя прадаецца ў 267 спецыялізаваных садова-гароднінных магазінах, адкрыта 436 аддзелаў па продажы садавіны і гародніны ў прадуктовых магазінах, працуюць 12 гароднінных рынкаў і 1079 латкоў. Значна пашыраны гандаль садавінай і гароднінай дзяржаўнымі магазінамі на рынках.**

**Праводзіцца работа па выкананню планаў нарыхтовак, завозу, перапрацоўкі і закладкі на захаванне бульбы, садавіны і гародніны для забеспячэння рознічнага гандлю і грамадскага харчавання.**

**Падрыхтаваны праект пастановы Савета Міністраў БССР па пытаннях паляпшэння работы рынкаў у гарадах рэспублікі.**

**П. БРЭЛЬ,**
**намеснік міністра гандлю Беларускай ССР.**

*Упрыгожыць новую Нямігу шматкватэрны жылы дом, які зойме ўсю даўжыню адной з платформ. Насупраць яго ўздымуцца чатыры — таксама жылыя — шаснаццаціпавярховыя будынкі. Па вуліцы размесцяцца і невялікія магазіны — камісійны, кніжны, ювелірны і іншыя. Тут жа будуць працаваць агенцтва па продажу білетаў на ўсе віды транспарту, новы салон Мастацкага фонду, кафэ і кафетэрыі. І ў самым канцы гандлёвага раду — рэстаран «Няміга» ў старажытным стылі.*

*Суседняя ж вуліца Астроўскага аб'яўлена запаведнаю. Яна будзе цалкам пешаходнай.*

*Праца праекціроўшчыкаў блізіцца да завяршэння. Праз два-тры гады мы пабачым у натуры першую чаргу новай Нямігі. Якім стане тутэйшы гандлёвы цэнтр у канцы семідзесятых — відаць на рэпрадукцыі аднаго з планшэтаў.*

**М. КАЛОМЕНСКІ.**



ТЭАТР

# НАБЛІЖЭННЕ ДА МЭТЫ

## ПРА ТВОРЧАСЦЬ РЭЖЫСЁРА І. ПАПОВА

РЭЖЫСЁРСКАЕ ІМЯ І. Папова вядомае ў рэспубліцы. На працягу многіх гадоў ён галоўны рэжысёр Гомельскага абласнога тэатра. Сёлета за пастаноўкі спектакляў «Толькі адно жыццё», «Залатая карэта» і «Першы грэх» народны артыст рэспублікі Іосіф Папоў вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.

...На рэпетыцыі ён бывае вельмі сур'ёзны. Спыняе акцёраў, тлумачыць, чаму героі гавораць і дзейнічаюць так, а не інакш, паказвае, як глыбей раскрыць духоўны стан чалавека, матывы яго паводзін. Бывае, ён злуецца, калі яго не разумеюць. Бывае, навокал гучыць смех, які сведчыць пра ўзаемаразуменне. Ён з тых рэжысёраў, што літаральна жывуць п'есай, якую ставяць. Ён умее і ў артыстаў абудзіць творчую прагу да сапраўднага мастакоўскага пошуку. А шукаецца заўсёды праўда. Праўда грамадскага клімату твора. Праўда характару асобных герояў. Праўда іх сутычак і канфліктаў. Праўда пачуццяў...

**Рэпертуар складаецца з разнастайных твораў драматургіі, але ў выбары той або іншай назвы менавіта для гэтага тэатра праяўляецца ідэйна-творчая пазіцыя рэжысёра. Іосіф Папоў любіць думку, выказаную ў свой час М. Чарнышэўскім, які адзначаў: «...Мабыць, кожнаму даводзілася заўважаць розніцу паміж людзьмі, размову якіх прыходзілася чуць. Пасядзіш дзве гадзіны з адным чалавекам — і адчуеш, што правёў час не дарэмна... Або даведаўся аб чым-небудзь новым, або больш ясна стаў глядзець на рэчы, стаў больш спачуваць добраму, або абражацца кепскім, або адчуваеш патрэбу падумаць пра што-небудзь. Пасля іншай гутаркі нічога такога не бывае. Адчуваеш, што з расказу не вынес наогул нічога, усё роўна як быццам бы займаўся з ім не размовай, а пусканнем мыльных бурбалак...» Так бывае і з п'есамі. Адна з п'ес разумная і праўдзівая, якая можа многа расказаць гледачу, узбагаціць яго веды; другая — быццам «пусты» чалавек. Першым «разгадвае» яе рэжысёр.**

Твор высокага грамадзянскага гучання, глыбокай думкі — «Залатая карэта» Л. Ляонава. Вельмі працаёмкая была яна для рэжысёра, акцёраў. Ні ў якім разе нельга было парушыць задуму аўтара, яго стыль, манеру. Гэты спектакль стаў паэтычным апавяданнем пра мужнасць і нязломнасць людскую, непаўторнасць людскіх лёсаў.

Праўда, пра спектакль гавораць па-рознаму: адны бачаць у ім празмернае захапленне рэжысёрам бытавымі падрабязнасцямі, другія — паэзію будзённага жыцця. Мабыць, ісціна ляжыць пасярэдзіне гэтых крайнасцей у ацэнцы. Прынамсі, мне здаецца, што І. Папоў знайшоў гармонію гранічнай рэальнасці і ўнутранай вобразнасці «ляонаўскага пісьма». Ва ўсякім разе, на лепшых прадстаўленнях спектакля такую гармонію адчуваеш.

Ярка акрэсленым, ясным па думцы, па глыбіні ўвасаблення ўзнік перад гледачом вобраз Цімошы, ролю якога выконвае Я. Дашкоў. Цімоша страціў на вайне зрок. Для другога, слабога воляю і душою, гэта павярнулася б на ўсё жыццё непапраўнай бядою. Але сціплы Цімоша — Дашкоў не адчувае сябе бедным. Гэты душэўна багаты малады чалавек цвёрда верыць: жыццё працягваецца, і патрэбна, каб яно было напоўнена добрымі справамі, у імя людскога шчасця.

Складаная ў спектаклі роля старшыні гарвыканкома Мар'і Сяргееўны. Леанід Ляонаў надзяліў яе моцным характарам, упэўненасцю, што жыць патрэбна для служэння людзям. У працы яна бачыць і шчасце жыцця для сваёй юнай рамантычнай дачкі Марыйкі, выпраўляючы яе ў дарогу. Вельмі пераканальна перадала складаную гаму перажыванняў Мар'і Сяргееўны Л. Сторажава.

Нецярпімасць да ўсяго подлага, карыслівага, несумленнага, што сустракаецца сярод людзей, — гэтыя рысы бачым у палкоўніка Бярозкіна (П. Вараб'ёў).

Побач з высакароднымі вобразамі ў «Залатой карэце» сустракаемся і з такімі, як Дашанька (арт. А. Усанава). У ёй, як у кроплі вады, адлюстраваліся пэўныя ўмовы, калі адны, прайшоўшы вялікія выпрабаванні, не сагнуліся, а мужна выстаялі і крочаць наперад, а другія (да іх належыць і Даша) зайздросцяць жыццю багатаму, «прыгожаму», якой бы цаной яно не далося.

Розныя людзі — розныя, зусім не падобныя адзін да аднаго характары. Іх мы сустракаем у жыцці. Пра іх нам расказалі тыя, хто працаваў над спектаклем «Залатая карэта», і ад духоўнай падрыхтаванасці гледача залежыць, што ён вынесе са спектакля: маўляў, «так яно бывае» або ўрок мудрага пісьменніка-драматурга...

П'еса-споведзь «Першы грэх» А. Каламійца пабудавана на ўспамінах. Людзі ў ёй вызначаюць для сябе жыццёвае крэда. Моладзь думае пра тое, як ёй жыць, асэнсоўвае свае ўчынкі.

Валодзя (В. Смірноў) паставіў перад сабою сур'ёзную задачу: жыць самастойна. Ён рыхтуецца да паступлення ў інстытут і працуе матросам. Гэта ўнутрана пераканаactive хлопец, які не паддаецца дурному ўплыву. Па натуры вельмі аптымістычны, ён жадае быць з жыццём на «ты» і ўступае ў самастойнае жыццё вельмі ўпэўнена.

Толя, ролю якога выконвае Я. Дашкоў, маладзей за ўсіх. Можа таму ён паспешлівы ў сваіх вывадах, якія абумоўліваюцца яшчэ і тым, што Толя кахае Марынку, а Марынка (арт. Л. Гарбунова) — капітана. І таму юнак памылкова абвінавачвае людзей у хлусні і баязлівасці «наогул». Але ён вельмі востра адчувае недахопы людскіх узаемаадносін.

Спектакль гэты не мае на сабе адбітку адкрытай дыдактычнасці, што магло б здарыцца. Кожны прыходзіць сам да ацэнкі сваіх пазіцый з пункту гледжання патрабавання грамадства і такое самавызначэнне чалавека — справа няпростая. Гэтаму вучыць спектакль...

Тэме ідэйнага выхавання маладога пакалення прысвечана таксама «Толькі адно жыццё» А. Маўзона.

**П'еса пастаўлена многімі тэатрамі, пра яе шмат напісалі крытыкі. У прыватнасці, на старонках «Літаратуры і мастацтва» А. Сабалеўскі (№ 12 за 1970 год) даў такі параўнальны агляд сцэнічнага жыцця адной п'есы ў розных рэжысёрскіх трактоўках. Што датычыць спектакля І. Папова, то і тут адзначана тактоўная, але актыўная «рука» пастаноўшчыка, які па-творчы расставіў акцэнты ў творы, што часам набывае меладраматычную афарбоўку. «Толькі адно жыццё» ў Гомелі гучыць як роздум аб рэальных падзеях і людзях, роздум, здольны захапіць сутнасцю маральных праблем глядзельную залу. Рэжысёр асцерагаецца, каб не атрымалася на сцэне «відовішча», калі ў гледача выціскаюць слязу, казычуць нервы, пацяшаюць, забываючы на тое, што праўда адлюстраванага драматургам жыцця такая суровая, што выключае «відовішчны элемент». Яшчэ К. Станіслаўскі папярэджваў: «Тэатр, звезены да ўтылітарных мэт, падобны да дарагога раяля, якім карыстаюцца, каб ссыпаць туды авёс». Гэта заўсёды памятае рэжысёр І. Папоў.**

На маю думку, спектакль «Толькі адно жыццё» у гамяльчан тым і каштоўны, што рэжысура ўстрымліваецца ад спакусы, якая ёсць у п'есе, даць меладраматычнае напаўненне вострым сацыяльным канфліктам. Пастаноўшчык па-тэатральнаму даследуе тое лепшае, што даў А. Маўзон артыстам, — грамадзянскую сутнасць чалавека. Пры тым ніхто з дзейных асоб не ўзнімаецца на «катурны», гэта — жывыя людзі, нашы сучаснікі. Такіх можна сустрэць і ў нашым горадзе... А паэтычнасць адлюстраванага жыцця трымціць у плыні падзей і сутычках характараў. Не «відовішча» створана, а мастацкае палатно...

Аднаго разу я «прабілася» да І. Папова і запісала гутарку з ім. Спытала, якім ён бачыць тэатр і акцёра, так сказаць, у ідэале. І вось адказ Іосіфа Сцяпанавіча:

**— Мне бліжэй за ўсё тэатр паэтычны. Ды і цяперашняя трупа ў Гомелі мае тэндэнцыю да яго. Лічу, што нашы спектаклі павінны гучаць і сур'ёзна, і ўзнёсла, абуджаць актыўныя эмоцыі ў гледачоў. А гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі акцёр ні на дзень не спыніцца на дасягнутым. Акцёру неабходна вучыцца, удасканальваць сваё майстэрства, якім бы таленавітым ён ні быў. У творчым працэсе як бы зліваюцца інтэлектуальны і эмацыянальны пачатак. А тут без глыбокіх ведаў не абысціся. Музыка, літаратура, жыццё ва ўсіх яго праяўленнях — усё гэта патрэбна ведаць акцёру.**

**Але, на жаль, прыходзіцца сустракацца з такімі выпадкамі, калі малады акцёр або актрыса лічаць, што інстытуцкага багажа дастаткова, забываюць, што сапраўдная загартоўка — ва ўпартай працы і паўсядзённай вучобе. Падказваеш — крыўдуюць. Тут ужо пра рэалізацыю сваёй задумы гаварыць не прыходзіцца. А задума непакоіць, бярэ ўсяго цябе ў палон. Як, скажам, творы Леаніда Ляонава. У цэнтры ўсёй нашай працы павінен быць чалавек, яго хараство, яго веліч, а ў творах Ляонава вельмі глыбокія, жыццёвыя вобразы.**

**Будзем працягваць працу і над творамі Чэхава. Яго вялікі гуманізм заўсёды будзе жыць. Чэхаў вельмі сучасны аўтар.**

**У бліжэйшы час прыступім да работы над п'есай Астроўскага...**

КАЛІ, развітаўшыся з маім субяседнікам, я пакідала тэатр, у фае ўбачыла сціпла надрукаваную тэлеграму з Масквы. Гэта было віншаванне Гомельскаму тэатру з прысуджэннем пераходнага Чырвонага сцяга і першай грашовай прэміі па выніках Усесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва тэатральна-канцэртных калектываў. У гэтай творчай перамозе ёсць значная заслуга галоўнага рэжысёра І. Папова, які цяпер вылучан на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР. Яго творчая дзейнасць, на маю думку, заслугоўвае такую адзнаку.

**Т. РАШЧЭНЯ.**

Гомель.

*ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА РЭЖЫСУРУ І. ПАПОВА*

**А. САБАЛЕЎСКІ.** **«Тры вечары — адна п'еса».** «Літаратура і мастацтва», 1970, 10 лютага.

**І. СЯУКО.** **«З глыбінь».** «ЛіМ», 1971, 26 лістапада.

**П. ФІЛІПАЎ.** **«Хай гарыць яго зорка».** «ЛіМ», 1971, 31 снежня.

**А. ПАНАСЕНКАВА.** **«Без гарэння адкрыцця не бывае».** «ЛіМ», 1972, 3 сакавіка.

ВЫЯЎЛЕНЧАЕ МАСТАЦТВА

# ТРЫВАЛАСЦЬ

## ПРА СЕРЫІ ГРАФІЧНЫХ ЛІСТОЎ А. КАШКУРЭВІЧА ПА КУПАЛАЎСКІХ МАТЫВАХ І «ПАРТЫЗАНЫ»

Так, трываласць... Не выпадкова гэтае азначэнне прыходзіць, калі спрабуеш лаканічна акрэсліць сутнасць работ графіка Арлена Кашкурэвіча. Сапраўды, яно выдатна стасуецца і да зместу яго творчасці, і да культуры формы. Ды, мабыць, датычыць яно і месца, якое сёння займае ў выяўленчым мастацтве Беларусі гэты майстар.

Можна сказаць, ён дасягнуў трыадзінства — арганічнай сувязі ўсіх трох кампанентаў, якія ў падмурку творчасці: зместу, формы, сувязі творчасці з жыццём. Інакш кажучы, Кашкурэвіч грунтоўна адказвае на тры асноўныя пытанні, на якія сёння абавязаны сумленна адказаць сабе і людзям кожны сур'ёзны мастак: **што, як, у імя чаго!..** І гэта сведчыць пра важкасць грамадзянскай пазіцыі мастака, важкасць яго творчасці ў агульным працэсе развіцця мастацтва. Можна дабівацца самага найдасканалага адзінства зместу і формы, вырабляючы ўсяго-наўсяго бразготкі... Значыцца, павінна быць яшчэ нешта. І гэтае «нешта» ў Кашкурэвіча красамоўна выяўлена ва ўсёй яго творчасці.

Нагадаць пра гэта важна таму, што мы гаворым пра мастака, чые творы вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.

Лісты А. Кашкурэвіча на тэмы Купалы ўспрымаюцца арганічнымі, натуральнымі. Яны толькі вонкава нагадваюць ужо знаёмыя нам ілюстрацыі да твораў Купалы ў выдавецтве «Художественная литература», з якім супрацоўнічаў мастак. У тым і справа, што самастойная серыя лістоў — зусім не механічнае павелічэнне ілюстрацый. Недарма Кашкурэвіч кажа, што для яго ў кампазіцыі мае значэнне кожны міліметр. А калі ў кампазіцыі (гэтым кампаненце формы) — значыць і ў змесце кожнага ліста...

Прыгадайце вобраз Бандароўны, створаны, мастаком. Колькі ў ім экспрэсіі, колькі ўнутранага пачуцця!..

Тое ж можна сказаць пра вобразы камунараў... Далікатная мера стылізацыі пад тагачасныя плакаты — і ў лісце ўзнікае атмасфера незабыўнай у гісторыі народа эпохі.

Серыя «Партызаны»... Сапраўды, ліст з мацяркамі, якія набіваюць кулямётныя стужкі, пераварочвае душу. Ужо адзін гэты ліст варты цэлай серыі.

А вазьміце графічны расказ пра партызанскае вяселле. Як моцна сціснуты рукі маладых, што назаўсёды звязалі жыццё сваё. Як глядзіць на іх партызанскі важак, ведаючы, што блаславіляе і на шчасце, і на суровыя выпрабаванні. Цяпер яны заўсёды будуць разам.

І яшчэ не магу не прыгадаць ліст «Смага». Баец і конь п'юць ваду з ручая. Колькі ў гэтай метафары зместу! Якая яна ёмістая!.. Справа, зразумела, не толькі ў самім сюжэце, колькі ў тым, як ён вырашаны.

Пра Кашкурэвіча, пра яго творчасць, пра работы, вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР, можна гаварыць многа. Але больш за ўсё тут хочацца сказаць пра глыбіню яго сапраўды паэтычнай творчасці. Аб яе грамадзянскім напале. Мастак авалодаў майстэрствам настолькі, што яму ўдаецца выказаць гэты напал грамадзянскага пачуцця пераканальна, па-свойму, дасканала.

Нельга не браць пад увагу таксама, што тэхніка афорту вымагае ад мастака выключнага валодання рысункам. Кашкурэвіч валодае ім. Ён вельмі актыўна скарыстоўвае багатыя магчымасці «афортнай палітры». Звярніце ўвагу яшчэ на тое, як дасканала падбірае ён тон для кожнага адбітку. Не, гэта не вырашэнне другарадных, чыста фармальных задач. Гэта пошукі адпаведнасці формы зместу, іх арганічнай узаемасувязі. Тое ж можна сказаць пра шырокі дыяпазон фактурных прыёмаў, якія майстар падпарадкоўвае таму, што ён хоча выказаць.

Помніцца, аднойчы ён пісаў, што ў працэсе стварэння графічнага ліста мае значэнне ўсё — ад першага імклівага эскіза да адбітку. Так, на ўсіх этапах творчасці ён рэалізуе гэты свой тэзіс. На ўсіх этапах стварэння ліста ўладарыць высакароднае натхненне. Напружаная і натхнёная, паслядоўная і нястомная праца прыносіць плён — афорты Арлена Кашкурэвіча на ўзроўні сучаснай мастацкай культуры, калі разумець пад культурай прыкметы і фармальныя, і змястоўныя. Тэхніка афорту вывучана ім настолькі дасканала, што ён карыстаецца ёю вельмі натуральна...

Але за ўсім гэтым складаная праца. І мы адчуваем яе якраз у той імправізацыйнай, «моцартаўскай» лёгкасці, з якой выкананы ліст і якая якраз і сведчыць, колькі ўкладзена папярэдняй працы, колькі натхнення, колькі настойлівых пошукаў — у кожны адбітак!.. У кожны — усё папярэдняе творчае жыццё!..

Так, трывалае майстэрства. Трывалы змест. Трывалая форма. Творы — трывалыя. Ім суджана жыць доўга. Яны вартыя высокай Дзяржаўнай прэміі.

**С. ПАЛЯКОЎ.**

*ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА ТВОРЫ А. КАШКУРЭВІЧА*

**М. ГУЦІЕЎ. Фарбы гераічнай сюіты.** «Літаратура і мастацтва», 18 снежня 1962 года.

**В. НІКІФАРОВІЧ. Паэзія ліній і фарбаў.** «Маладосць», 1965, № 4.

**В. ВАЛЬФОЎСКІ. Паэзія і майстэрства.** «Советская Белоруссия», 1 верасня 1968 года.

**Графік Арлен Кашкурэвіч.** «Культура и жизнь», 1968, № 4.

**У. БОЙКА. Жыццём натхнёны.** «Сельская газета», 28 студзеня 1968 года.

**А. КАШКУРЭВІЧ. Пра свае творы.** «Маладосць», 1970, № 5.





**Дзе толькі ні даводзіцца выступаць са сваёй праграмай Дзяржаўнаму хору БССР!.. І не заўсёды да паслуг артыстаў—прыстасаваныя, абсталяваныя па апошняму слову тэхнікі сцэны... Вакальна-харэаграфічны малюнак «Прадай, бабуля, бычка» не горш успрымаецца і тут, на палявым стане..**

**А на здымку справа — артысты ў час кароткага антракту. Яшчэ некалькі мінут, і пад небам Случчыны зноў загучаць песні, імкліва завіхурыцца танец...**

Фота Г. ФРАЛОВА.



Алесь ШЛЕГ

# ВЕЦЕР З БАЛТЫКІ

**Закончыў працу над аповесцю пра людзей, якія ў цяжкіх умовах, часам ахвяруючы сваім жыццём, усталёўвалі Савецкую ўладу ў адным з беларускіх паветаў. Героі аповесці — людзі невыдуманыя, у таго-сяго з іх толькі зменены прозвішчы.**

**Прапаную ўвазе чытачоў урывак з гэтага твора.**

**Аўтар.**

АЛЕСЬ СІНКЕВІЧ намацаў у кішэні капшук з махоркай, упоцемку скруціў цыгарку і прыкурыў. Колькі часу нерухома сядзеў на нарах, прыслухоўваўся, як варочаюцца, стогнуць у сне людзі. А ўваччу стаяла тое страшнае відовішча, якое ўбілася яму ў сон і прымусіла ўсхапіцца. Прыснілася Алесю былое, перажытае. Балтыка... Ваенны карабель... На палубе курчацца, крычаць, стогнуць людзі з жахлівымі, дзікімі вачыма. А ён ідзе, пераступаючы церез іх, і яны з адчаем цягнуцца да яго рукамі, хапаюць за босыя ногі, аніяк не даюць яму дабрацца да кармы, дзе ляжыць малюсенькі, увесь ажно пасінелы ад крыку хлопчык—яго сын. Алесь рвецца з усіх сіл, каб як мага хутчэй дабрацца да хлопчыка. Ужо засталося некалькі крокаў, ды раптам аднекуль вылузнуўся вусаты жандар і абшчаперыў ззаду. Алесь хоча вырвацца і не можа. І тут бачыць, што да хлопчыка бяжыць Ніна. Яна вось-вось схопіць малога ў свае дужыя рукі, але раптам над бортам уздымаецца агромністая хваля, якая налятае на палубу, і вось ужо на тым месцы, дзе былі сын і Ніна, застаецца толькі белая пена.

Ад гэтага жудаснага відовішча Алесь бязгучна закрычаў і, прахапіўшыся, рэзнуўся галавой аб днішча верхніх нар, а потым доўга не мог уцяміць, дзе ён і што з ім.

Глыбока ўцягнуў у сябе смярдзючае паветра, набітае людзьмі камеры, звесіў босыя ногі з нар і толькі тады адчуў, як агнём пячэ спаласаванае шампаламі цела. Хацелася глынуць свежага паветра. Ён папляваў на пальцы, патушыў у іх недакурак, выставіўшы рукі ўперад, вобмацкам пайшоў да акна. Доўга шукаў табурэтку і, нарэшце, намацаўшы яе, з палёгкай уздыхнуў, прысеў. Адкрыў акенца, і чыстае марознае паветра тугой хваляй ударыла яму ў гарачы твар. Алесь доўга ўзіраўся ў чорнае і глухое неба і раптам заўважыў, што ў тым баку, дзе шумелі таполі, неба пачало святлець. Стала холадна. Зачыніўшы акенца, ён дабраўся да сваіх дашчаных рыпучых нар і лёг.

У калідоры бухалі цяжкія крокі ахоўніка, які, гонячы ад сябе сум, ціхенька высвістваў нешта бадзёрае. Прыслухоўваючыся да гэтых крокаў, да ўсхліпванняў і мармытанняў у камеры, Алесь раптам зноў нагадаў свой сон і міжволі ўцяў галаву ў плечы. Карабель... палуба... крыкі... стогны... чалавечыя рукі... Дзе і калі, — толькі не ў сне, а на яве—ён ужо чуў і бачыў такое? Алесь заплюшчыў вочы, і перад ім нечакана паўстала неабсяжнае, на дзіва сцішанае мора. Сіняе, залітае сляпучым сонцам, яно нехаця выгінае сваю люстраную паверхню, патрывожанае магутнымі вінтамі «Аўроры». За кармой крэйсера кіпіць іскрыста-белы бурун. І проста ў яго рашуча кідаюцца мітуслівыя чайкі. А вакол стаіць такая спёка, што нават на палубе няма чым дыхаць: неба і тое, здаецца, патыхае гарачынёй. Гледзячы, як з трох труб крэйсера валяць угору чорныя слупы дыма, Алесь са шкадобай падумаў, што недзе там, дзе гудуць ненажэрныя топкі катлоў і чахкаюць блішчастыя ад масла хадавыя машыны, качагары і машыністы ад стомы і спёкі, відаць, ледзь трымаюцца на нагах. У чырвоную пашчу топкі качагары шуфлямі кідаюць змочаны вадой — каб лепей гарэў—вугаль. А побач, ля другога катла, выжыльваюцца з жалезнымі двухметравымі ламамі, якія хтосьці назваў «панядзелкамі», іх таварышы. Стоячы амаль ушчыльную ля расчыненай топкі, часам закрываючы рукавіцай твар ад нясцерпнай гарачыні, гэтымі «панядзелкамі» яны падкалупваюць сліпуча-белую крыгу шлаку, б'юць яе на кавалкі, каб потым вывернуць іх на жалезныя пліты, проста сабе пад ногі, заліць вадой і «вымайнаць» за борт. І хоць чысціць топкі на поўным ходзе карабля вельмі цяжка, бо падае ціск пары ў катлах, яны ўсё адно павінны трымаць «пар на марцы», каб стрэлка манометра заўсёды стаяла на ненавіснай для іх рысцы. Ледзь паспеўшы глынуць з напаленых чайнікаў вады, зноў кідаюцца да топак, бо крэйсер павінен ісці самым поўным ходам, таму што на борце карабля знаходзіцца вялікі князь Барыс Уладзіміравіч. Алесь цяжка ўздыхнуў і зноў узяўся за швабру — палуба павінна быць такая, каб белая насоўка старшага афіцэра, калі ён правядзе ёю па палубе, засталася чыстай. Трынаццаць месяцаў назад, з таго самага часу, калі «Аўрора» пакінула за кармой Кранштат і выйшла ў адкрытае мора, яшчэ не было такога дня, каб Алесь не трымаў у руках швабры. Але заўтра можна будзе адпачыць, бо сёння, калі верыць боцману, недзе надвячоркам павінны нарэшце стаць на якар. Як гэта было б цудоўна, каб зараз наляцеў знянацку вільготны балтыйскі вецер, ад якога так лёгка і добра дыхаецца! Думаючы так, узняў галаву і проста па курсу карабля ўбачыў у блакітнай смузе палоску берагу. Сонца, што садзілася ў ваду, залівала малінавым пажарам мора, над якім па-ранейшаму кружыліся чайкі. Яркія промні асвятлялі трубы, гарматныя ствалы—ад іх клаліся на палубе доўгія цені. Хутка цямнела. Бераг раптам замігцеў яркімі агеньчыкамі, якія падплывалі ўсё бліжэй і бліжэй...

А праз тры дні гэты жудасны бераг стаў ненавісны ўсёй камандзе. На каманду знянацку навалілася злая трапічная ліхаманка, і палуба крэйсера ператварылася ў лазарэт. Як толькі садзілася сонца, шэсцьсот трыццаць чалавек пачыналі курчыцца, крычаць, плакаць. Матросы прасілі піць, трызнілі, і не было каму іх даглядаць, бо і судовы ўрач ляжаў без прытомнасці. А побач залаціўся агнямі бераг, узляталі ў цёмнае неба святочныя феерверкі—вялікі князь разам са старшымі афіцэрамі ўжо чацвёртыя суткі баляваў на беразе. Стагнала палуба, крычалі, сыпалі праклёны матросы і, часам не вытрымаўшы пакут, падпаўзалі да борта і кідаліся ў чорную, расквечаную агнямі ваду...

— У-у, гады! Халуі! Атопкі афіцэрскія,—раптам закрычаў, задыхаючыся, сусед на верхніх нарах. — Не падыходзьце, усёадно жывым не дамся!

Алесь ажно падскочыў ад гэтага злоснага крыку, які так знянацку абарваў успаміны і вярнуў яго з далёкага былога назад, у гэтую перапоўненую людзьмі камеру. Сусед на верхніх нарах скрыгатнуў зубамі, вылаяўся і змоўк. Алесь прыгадаў, што салдата, які спіць на верхніх нарах, два дні як укінулі ў іхнюю камеру, але яшчэ ніхто не чуў ад яго ніводнага слова. Заплюшчыўшы вочы, ён гадзінамі ляжаў на нарах, абыякавы, здаецца, да ўсяго на свеце.

Алесь маркотна ўздыхнуў і павярнуўся на бок... Праз які час адчуў, як кальнула іголкамі і пачало ныць параненае плячо. Ён лёг на спіну, але тупы боль не сунімаўся, і Алесь, ведаючы, што ад болю ў яго ёсць толькі адзін правераны сродак—не думаць пра яго, мусіў сабе прыгадаць падзеі апошніх двух год. Гэтыя два гады зрабілі з яго новага, упэўненага ў сабе чалавека, які прыдбаў разам з упэўненасцю яшчэ і вялікую нязнаную дагэтуль мэту. І вінавата ва ўсім гэтым дружбацтва з матросам Антонам Акулічам. Алесь да сустрэчы з ім быў добры служака, яго паважалі матросы, і яму гэтага было дастаткова. Ён ніколі не задумваўся, дзеля чаго муштруе матросаў, бо быў упэўнены: усё, што робіцца, патрэбна і неабходна.

Антон Акуліч адкрыў яму вочы на несправядлівасць, што панавала навокал, нацэліў яго на пошукі праўды. А праўда ходзіць па людзях, жыве і ў іх сэрцах, і Алесь разам з Антонам пачаў шукаць такіх людзей, згрупоўваць іх вакол сябе. Але Алеся знянацку спісалі з «Аўроры» ў флоцкі экіпаж, а адтуль накіравалі боцманам на мінны загараджальнік «Бярэзіна». Назва мілай сэрцу беларускай рэчкі, якую насіў карабель, вельмі ўзрадавала яго. На «Бярэзіне» Алесь стварыў бальшавіцкую групу, спачатку невялікую, у якую потым уцягваў усё новых і новых матросаў.

Неяк, калі ён вяртаўся са штаба, куды насіў пакет ад камандзіра карабля, яго спыніў у скверыку незнаёмы прапаршчык і са шчырай усмешкай сказаў: «Будзем знаёмы, Крыленка. У мяне да вас гаворка ёсць. Давайце прысядзем на гэтай лаўцы». Як толькі селі, незнаёмы сказаў, што ён, Алесь, некім выкрыты і яму трэба тэрмінова пакінуць карабель. Даў адрас яўкі і развітаўся, а Алесь бегма кінуўся на карабель, каб папярэдзіць таварышаў. Сяброў папярэдзіў, але самому пакінуць карабель не ўдалося. Калі выскачыў са свайго кубрыка на палубу, адразу аслупянеў, парадны трап быў падняты на борт, і карабель паступова адсоўваўся носам ад пірса. Гледзячы, як большае паласа вады між суднам і берагам, вырашыў ужо скочыць за борт, але ў гэты момант ззаду да яго непрыкметна падышоў мічман і як не ў самае вуха сказаў: «Марш на сваё месца! Службы не ведаеце?» Алесь вылаяўся ў думках і шпарка падаўся да матросаў, што завіхаліся на палубе, скручваючы прычальныя тросы. Алесь пачаў назіраць за камендорамі, якія спрытна расчахлялі гарматы і разварочвалі артылерыйскія вежы ў бок мора. Гледзячы, як павольна верне свой ствол першая гармата, Алесь падумаў, што можа Крыленка памыліўся, і ўсё яшчэ абыдзецца. Як бы там ні было, але ў адкрытым моры баяцца яму няма чаго, арыштаваць яго могуць толькі тады, калі карабель прышвартуецца да пірса. Супакоіўшы сябе гэткім чынам, зірнуў па баках і ўбачыў, што ўся эскадра ідзе ў кільватэр самым поўным ходам. Карабель калыхала бартавая гайданка, над хвалямі насіліся чайкі. Адна з іх смела ўселася на марсавай бочцы і з вышыні цікаўна сачыла за матроскай мітуснёй. Алесь зірнуў на флагманскі карабель і ўбачыў, што адтуль сігналяць: бачу ворага, падрыхтавацца да бою! «Стаяць на месцах!—пранеслася ўзмоцненая мегафонам каманда камандзіра карабля.— Марсавы, на бочку!»

Алесь назіраў, як імкліва лез-бег на мачту марсавы матрос, як, перапалоханая яго раптоўным з'яўленнем, шыбанула ўгору чайка. Прасачыўшы за яе палётам, Алесь убачыў удалечы шматлікія дымы нямецкай эскадры. Праз гадзіну гэтыя дымы падсунуліся зусім блізка, сталі выразнымі карпусы караблёў. Іх было амаль удвая больш, чым рускіх. Алесь пачаў іх лічыць, але ў гэты момант марсавы матрос закрычаў: «Справа па борце эсмінец! Разварочваецца на нас!» «Дабро. Падыдзем і мы да яго бліжэй»,—на дзіва спакойна прагучалі ў агульнай напружанасці словы камандзіра.— «Камендоры?» — «Камендоры гатовы!»— рэхам адгукнуўся з-за вежы артылерыйскі начальнік, і ў тое ж імгненне паблізу шыбануў угору слуп вады, за ім другі, трэці.

Мора вакол карабля закіпела ад выбухаў, і Алесь з трывогай падумаў, што камандзір нешта марудзіць, час ужо адкрыць агонь. Ледзь толькі гэта думка мільганула ў яго галаве, як раптам скаланулася ад магутнага залпа палуба, а над ёй паплыў шызы парахавы дым. Вадзяныя слупы ўзняліся перад нямецкім эсмінцам, і не паспелі яны апасці, як у адказ бліснулі з варожага борта жоўта-барвовыя языкі агню, даляцеў запознены гук залпу. На палубе ля самай гарматнай вежы грымнуў аглушальны выбух. Алесь войкнуў ад пякучага болю, схапіўся за плячо рукою і з тупым здзіўленнем заўважыў, што далонь пачырванела ад крыві. Ён пашукаў вачамі, каго б паклікаць на дапамогу, і ўбачыў на палубе нерухомае цела матроса, у якога чамусьці не было галавы. Зноў грымнула, побач зацокалі асколкі, і калі дым разышоўся, Алесь не паверыў сваім вачам: вежа першай гарматы была разбіта, а з артылерыйскага адсека клубаваў чорны дым, сярод якога раз-пораз мільгалі чырвоныя пасмы агню.

(Заканчэнне на 10-й стар.).

*З НОВЫХ ПЕРАКЛАДАЎ*

Іван ВЫРГАН

## АПАВЯДАННЕ ПРА ДЗЕДА АХРЫМА

Не хадзіць па родных загонах
Больш ніколі дзядам былым...

З іх равеснікаў на сягоння
Жыць застаўся адзін Ахрым!
Ужо дзеда сыноў дзядамі
Называюць—і з году ў год
Пашыраецца іх сынамі
За лік праўнукаў дзедаў род.

Набліжаецца смерць,
не ўбачыць
Ён, напэўна, гэту вясну...
Можа б зеллем якім гарачым
Адхіліла яна труну!
Халадзее старое цела,
Жылка кожная з кожным
днём—
Моц працоўная адляцела,
Увайшла ў чарназём, як гром!

І ляжыць ён, нібыта з воску,
У вачах—ні жалю, ні слёз.
Сыч хаўтурную пагалоску
Па ўсім свеце аб ім разнёс.
Дзедаў род з усяго наўколля
Страў нанёс і нанёс пітця:
Пі і еж — усяго даволі
Для праводзін яго жыцця.

Астываюць гарой пшанічнай
З процвін знятыя пірагі,
Кубкі поўны вадой крынічнай
Аж па самыя берагі.
Стол прысунуты да старога,
На стале—ад сэрца дары,
Ды не бачыць Ахрым нічога—
Памірае сейбіт стары.

Б'ецца, б'ецца зіма сівая
Галавой сівой аб парог,
Скачанелы садок гайдае,
Трубіць гучна ў халодны рог.
Адграбаючы снег, лапатай
Нехта шоргае па сцяне,
А яму здаецца—за хатай
Круціць бура жорны ў млыне.
Дзед рукою махае, нібы
Аддае загад ветраку...
Бура сціхла. Скрабецца ў шыбы
Сад, працёршы сваю руку.

Раптам дзеду з'явіўся ў сненні
Пастушок, што кароў пасе:
Локці голыя і калені,
Басаногі, зябне ў расе.
Быў хлапчук, але знік раптоўна,
Перайначыўся дзецюком,
І ўжо вочы блакітам поўны,
Чуб на вочы навіс крылом.
Дужы мускул дыхае жвава,
Б'ецца ў жылах гарачы рух,
А па сёлах гуляе слава,
Што быка перамог пастух.
Уздыхнуў Ахрым у пасцелі,
Аж хіснуліся абрусы,
Аж нявесткі яго знямелі,
Паглядзеўшы на абразы.
Зноў разгортваецца перад
дзедам
Стэп, нібыта крыло арла:
Хмары беглі блакітным светам,
А зялёным ніва цякла.
Па высокіх хвалях пшаніцы,
Праз яе крутыя валы,
Жнейку, жоўтую птушку
быццам,
Сапучы, валакуць валы.
А валоў паганяе згадзька.
І не можа ніяк пазнаць
Дзед яго... Ды мільгнула
згадка:
Гэта ж ён, той хлопчык, відаць,
Той, што ў полі пасвіў худобу,
Тут працуе за сноп густы!
І ўсміхнуўся Ахрым: хваробу,
А не хлеб, зарабляеш ты!
Зноў дзе дзелася ўсё, прапала,
Правалілася ў прорву сну...
Тут сяло за сялом паўстала—
Люд пачаў за зямлю вайну.
Заблішчэлі на сонцы косы,
Замільгалі вілы ўгары,
І ўцякала кулацтва ў лозы,
Пахавалася ў гушчары.
На навалу пайшла навала,
Залівала крывёю рунь,
Прагавіта зямля прымала
Смерцю выкашаных—без трун.
Адышоў працоўным сяянам
Стэп шырокі. Зірні на стэп!—
Як раскінуўся акіянам
Хлеб арцельны! Як спее хлеб!
Дзед у жыце стаіць, рукамі
Ледзь да коласа дастае,
На машыне едзе палямі,
Аглядае нівы свае...
І жахнуўся Ахрым нечакана:
Дзе ж ён дзеўся той дзед?
Хіба
Поле ўсё не ім узарана,
Не яго чакае сяўба?
Тут павекі ён размыкае...
Род увесь перад ім стаяў.
Ой, то ж ён той свет пакідае,
Што ў Кастрычніку завяваў!..
І рвануўся Ахрым з пасцелі,
Прыпадае да шкла ілбом:
Лёд трашчыць ужо на Арэлі,
Папраўляе арцель паром...
І панікнуў дзед. Нежывога

# ДЗЯКУЙ ТАБЕ, СВЕТЛАГОРСК!

*З V РЭСПУБЛІКАНСКАГА СЕМІНАРА ТВОРЧАЙ І НАВУКОВАЙ МОЛАДЗІ*

СЕМІНАР завяршыў сваю работу!..

Гэтак жа, як і папярэднія, ён мае сваю гісторыю, свае паданні, сваіх герояў.

Кожны дзень, напружаны, дзелавы, быў багаты на змястоўныя гутаркі, цікавыя сустрэчы, незабыўныя падзеі. Іншы раз здавалася, быццам за спіной семінара, скажам, не тры-пяць-сем дзён, а добрыя два-тры тыдні...

За першыя пяць дзён мы пабывалі на Светлагорскім заводзе штучнага валакна, цэлюлозна-кардонным камбінаце, пaглядзелі, як здабываюць нафту, сустрэліся з кіраўніцтвам раёна, пагаварылі пра беларускі тэатр, музыку, літаратуру, архітэктуру. Абмеркавалі цікавыя выступленні па пытаннях філасофіі, псіхалогіі, эстэтыкі, эканомікі, міжнароднага маладзёжнага руху і шмат іншых. Зрабілі цудоўную экскурсію на кацеры ўверх па Бярэзіне і нават зварылі юшку... Сапраўдную, на беразе ракі, з дымком... Вось толькі рыбу для яе налавілі не самі. Ды і не дзіва: сто пяцьдзесят едакоў — не жартачкі!..

Але не трэба думаць, што сярод «семінарыстаў» не было заўзятых рыбакоў. Жыць ля Бярэзіны і не лавіць рыбу немагчыма. У вольны час, раніцаю і ўвечары, цэлая «брыгада» ўдзельнікаў семінара з вудамі і спінінгамі выпраўлялася на бераг. Прызнаным чэмпіёнам семінара па рыбалцы адзінадушна лічыўся музыкант Валодзя Андропаў. Ён злавіў першага шчупака. Ён жа разам з кампазітарам Фёдарам Пыталевым кожны дзень «пастаўляў» на стол «фракцыі музыкантаў» судакоў, галаўлёў, язей. Праўда, мастакі таксама не трацілі час марна. Яны выпрацавалі свой непаўторна індывідуальны спосаб здабывання рыбы. Адкрыла яго Ніна Пілюзіна. Аднойчы сядзела яна з эцюднікам ля ракі, пісала цудоўны палескі краявід. Раптам надышоў да яе хлопец і кажа:

— А ці не маглі б вы намаляваць мой партрэт?..

Праз якіх паўгадзіны Ніна зрабіла сангінаю яго партрэт, а ўдзячны «заказчык» выцягнуў з рукзака ладны пакунак вяленых ляшчоў...

Гэты выпадак даў добры штуршок творчай актыўнасці мастакоў, і—хоць ні ў каго не «клявала», як у Ніны,— яны, як толькі канчаліся лекцыі, бралі эцюднікі і кіраваліся да берагу.

Дарэчы, група мастакоў на гэтым семінары падабралася моцная, цікавая. Пра гэта можна было меркаваць па выстаўцы, якую яны наладзілі і якая выклікала вельмі ажыўленую, гарачую дыскусію.

На выстаўцы былі прадстаўлены амаль усе жанры выяўленчага мастацтва. Жывапіс Аляксея Пятрухны, скульптура Дзмітрыя Папова, графіка Юрыя Нікіфарава, Сяргея Волкава, Ніны Пілюзінай, кераміка Аляксандра Зіменкі (пра яго нядаўна пісала «Літаратура і мастацтва»), плакат Леаніда Дзягілева, дызайнерская распрацоўка Льва Талбузіна, эскізы касцюмаў для фільма «Верыш—не верыш»



Сто пяцьдзесят едакоў — не жартачкі...



Як бачыце, этнаграфічныя касцюмы саўгасных спявачак «глядзяцца» і на «архісучасным» фоне семінарскіх насценгазет...

Жанны Шыдлоўскай.

Дзень выяўленчага мастацтва, здаецца, быў самым ажыўленым, самым скіраваным на дыскусію. У гэты дзень ніхто не заставаўся абыякавым. Канечне, адбылося гэта толькі таму, што работы маладых мастакоў былі цікавымі і давалі багата матэрыялу для спрэчак.

Асабліва гарачая дыскусія разгарнулася вакол работ Юрыя Нікіфарава і Льва Талбузіна.

Работа Талбузіна — распрацоўка дыспетчарскага пульта для сістэм кіравання паветраным рухам — зацікавіла «семінарыстаў» не толькі чыста пластычнымі эфектамі. Іх глыбока ўразіла, якія складаныя псіхалагічныя, арганізацыйныя, тэхналагічныя пытанні рашае дызайнер, якія разнастайныя і адказныя задачы стаяць перад ім. Вось хаця б гэты пульт... Праз кароткі час такія пульты з'явяцца ва ўсіх аэрапортах Савецкага Саюза. Усе дыспетчары, якія сочаць за рухам лайнераў, будуць працаваць у тым асяроддзі, у тых умовах, якія прапанаваў мастак.

Гэта каго хочаш можа ўразіць!..

Работы Юрыя Нікіфарава не пакінулі нікога абыякавым. І хаця палярызацыя думак была вельмі значная — ад безумоўнага захаплення да рэзкага непрыняцця, — але ў довадах апанентаў былі зерні слушнага.

Асабіста для мяне было вельмі прыемна пабачыць работы Юрыя Нікіфарава таму, што я памятаю яго карціну «Слова аб палку Ігаравым», якую Юрый паказаў у 1968 годзе на рэспубліканскай выстаўцы твораў маладых мастакоў.



Удзельнікі семінара — фізік Пётр Прахарэнка; рэжысёр тэатра юнага гледача Людміла Тарасава і кіназнаўца Ала Бабкова.

Гэта карціна ўражвала, захапляла сваім магутным размахам, нейкім вольным подыхам. Але пасля гэтага, амаль чатыры гады імя Нікіфарава больш не сустракалася ў каталогах рэспубліканскіх выставак. Так што іншы раз нават закрадвалася думка — ці не перастаў малады мастак творча працаваць, ці не «пераключыўся» на чыста афармiцельскую работу, на заказы-«аднадзёнкі» (з мастакамі такое іншы раз здараецца). І вось, дзякуй семінару, убачыў новыя работы Юрыя і з радасцю мушу сказаць: мастак, які так добра заявіў пра сябе чатыры гады назад, не спыніўся, не размяняўся на дробязі. Яго ілюстрацыі да «Караля Ліра», «Гамлета», лісты «Хірасіма», «Элада-70», «Каін» сведчаць аб вельмі сур'ёзным падыходзе мастака да жыцця, да праблем сучаснасці, сведчаць аб яго духоўнай і прафесійнай сталасці.

Юрый Нікіфараў умее знайсці вельмі напружаны вобраз, які з амаль абсалютнай дакладнасцю перадае выразную, ясную думку, умее напоўніць вобраз высокімі пачуццямі і — галоўнае — увасобіць яго на адпаведным ўзроўні майстэрства.

Праўда, нельга не адзначыць і таго, што амаль усе работы Юрыя, прадстаўленыя на «семінарскую» выстаўку, не вельмі дакладна знойдзены ў матэрыяле. Узяць хаця б ілюстрацыі да «Караля Ліра». Я не ўпэўнены, што іх можна назваць ілюстрацыямі. Гэта хутчэй мастакоўскія варыяцыі на тэму «Караля Ліра», у якіх Нікіфараў раптам паўстае перад намі як... тэатральны мастак. Ён «будуе» мізансцэны, распрацоўвае драматургію вобраза, узводзіць дэкарацыі — адным словам, займаецца ўсім тым, чым звычайна займаецца тэатральны мастак, але робіць гэта ў графічнай серыі. Зразумела, гэта парушае чысціню жанру, прымушае ставіцца да гэтых работ як да нейкага пераходнага этапа.

Амаль тая ж гісторыя і з яго вялікімі лістамі — яны так і «просяцца» на сцяну. У іх ёсць усё, што патрэбна манументальнаму жывапісу. Ды і глядзяцца яны, між іншым, як кардоны для роспісаў. Можа, у гэтым і ёсць нейкае рацыянальнае зерне, можа не трэба

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

# Уладзіміру КАЛЕСНІКУ—50

*17 верасня споўнілася 50 год вядомаму беларускаму крытыку і літаратуразнаўцу Уладзіміру Калесніку. З гэтай нагоды праўленне Саюза пісьменнікаў БССР звярнулася да юбіляра з прывітальным адрасам, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Уладзімір Андрэевіч!**

**Мы, Вашы сябры, таварышы па пяру, сардэчна вітаем Вас у дзень Вашага пяцідзесяцігоддзя.**

**Сын плытагона, Вы цягнуліся да навукі і культуры, настойліва авалодвалі ведамі. У час вайны сталі падпольшчыкам, потым пайшлі ў партызаны, дзе былі падрыўніком, кулямётчыкам, начальнікам штаба партызанскага атрада.**

**Пасля вайны зноў была вучоба — інстытут, аспірантура, — яна дала добры плён: Вы сталі кандыдатам філалагічных навук.**

**Ваша выступленне ў друку як крытыка і літаратуразнаўцы прыпадае на 1952 год. З таго часу напісана нямала — рэцэнзіі і артыкулы, публіцыстычныя нарысы і творы мастацкай прозы.**

**Мы цэнім Вас як аднаго з актыўных даследчыкаў беларускай літаратуры, аўтара кніг «Паэзія змагання», «Час і песні», «Аповесць пра Таўлая» і іншых.**

**Вашым літаратуразнаўчым працам уласцівы глыбіня аналізу, тонкі густ, добрае адчуванне спецыфікі мастацкай творчасці.**

**Варта адзначыць, што Вы паспяхова спалучаеце творчую работу з педагагічнай дзейнасцю, выхаваннем студэнцкай моладзі.**

**Шмат сіл і ўвагі Вы аддаяце падрыхтоўцы маладых літаратараў, з'яўляецеся нязменным кіраўніком Брэсцкага літаратурнага аб'яднання.**

**Жадаем Вам, дарагі Уладзімір Андрэевіч, новых творчых поспехаў, моцнага здароўя, сонечнага настрою, шчасця».**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» таксама сардэчна віншуе юбіляра, жадае яму спору ў працы.*



# СЛОВА ПРА СЯБРА

Амаль адначасова пачыналіся сцяжыны ў родную філалогію ў мяне і ва Уладзіміра Калесніка. У невялічкім пакоі студэнцкага інтэрната Мінскага педагагічнага інстытута больш за дваццаць год таму фармуляваліся тэмы нашых першых даследаванняў; там прайшла першая разведка ў навуку, першая спроба сілы. А потым з Уладзімірам Калеснікам мы не раз бачылі —на Докальцы і Бярозе, на Сэрвечы і Свіцязі, на Шчары і Нёмане — усход сонца... Не раз абмяркоўвалі намеры, планы, спрачаліся і жартавалі. Напісалі ўдвух, з вялікаю доляю юбіляра і маленькай маёй, і выдалі кніжку. Ён стаў аўтарам кніг, прадмоў да аб'ёмістых і тонкіх выданняў, шматлікіх артыкулаў у беларускай і саюзнай перыёдыцы. Уладзімір Андрэевіч Калеснік — мой дарагі Валодзя — прызнаны на Беларусі вучоны, пісьменнік, педагог.

Былы начальнік штаба партызанскага атрада не можа і аднаго лета пражыць, каб не завітаць у сваю родную Налібоцкую пушчу, у Наднямонне. Там, недалёка ад Шчорсаў, ёсць мясціна на беразе Нёмана, якую даўно назвалі вельмі гаваркім словам — Добрач. Штолета — і ў дажджлівыя дні, і ў дні яркага сонца—на Добрачы ў палінялай пад сонцам і дажджамі палатцы жыве пісьменнік. Глядзіш на яго і думаеш: ён лічыць грэхам падчас адпачынку многа спаць або валяцца на сонцы. Паляванне на шчупакоў, ляшчоў і язёў змяняецца на працу — піша. Потым выезды і паходы ў вёскі і мястэчкі, незлічоныя сустрэчы з людзьмі і новае паляванне — з фотаапаратам, вынікамі якога мы любуемся і па кнізе-альбоме, зробленай з Янкам Брылем, — «Між тых палёў», і па здымках у перыядычным друку. Нямала іх — з прыроды, прыгожай, разнастайнай. Умее любіць ён прыроду.

Прытаіўшыся пад кустом, заядлы і ўмелы рыбак, Валодзя чакае язя ці галаўня. А тут побач з паплаўком вынырае здаровы і, здаецца, рахманы бабёр. Рыбак глядзіць, назірае, а бабёр адплывае і падплывае, плёхаецца і круціцца ў віры.

— І што, скажы, прыкруціла цябе тут? Ці не пайшоў бы ты адсюль... Бо зараз вудаём па спіне будзе.

Але рука рыбака не падымецца, а яго спакойны барытон быццам прыварожвае бабра да мясціны яшчэ на нейкі час.

Не адзін беларускі філолаг, як і я, з удзячнасцю захоўвае той свой рукапіс, які прачытаў Калеснік; на палях і на асобных лістах ён пакінуў прадуманыя, канкрэтныя парады і пажаданні, а то і проста папраўкі да тэксту. Эрудыцыя, дасведчанасць юбіляра проста здзіўляе. Мне многа разоў даводзілася сустракацца з яго былымі студэнтамі, і не раз чуў ёмістае размоўнае: «Ён вельмі ж ведае!» За выкладчыцкую дзейнасць імяніннік узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».

Яго рэцэнзію на пераклад Язэпам Семяжонам «Песні пра зубра» я прачытаў і на тым самым тыдні перачытаў другі раз, зайздросцячы добраю зайздрасцю, з якім разуменнем напісана сапраўды навуковая праца, сціпла ахрышчаная рэцэнзіяй!

Шмат хто з мінскіх літаратараў, вярнуўшыся з Брэста, з захапленнем і ўдзячнасцю ўспамінае вечары, сустрэчы з чытачамі, арганізаваныя Калеснікам. І шмат хто з іх расказвае пра гасціннасць і ўтульнасць дома Калеснікаў.

Нашым юбілярам ганарыцца калектыў Брэсцкага педагагічнага інстытута: Калеснік — нязменны загадчык кафедры беларускай літаратуры. Ён арганізаваў і цяпер кіруе літаратурным аб'яднаннем Брэстчыны.

Цікавыя і рэальныя ў Калесніка планы на заўтра, на паслязаўтра. Але пра планы яго не мне гаварыць. Толькі ведаю, што шчасліва абраная жыццёвая і творчая дарога, крыштальная сумленнасць, загартаванасць у працы забяспечаць яму новы плён. Мы будзем шчаслівыя за новыя поспехі Уладзіміра Калесніка.

**Фёдар ЯНКОЎСКІ.**

І ЗНОЎ Я СУСТРЭЎСЯ на мінскай вуліцы з ім, з Хведарам Федзюковічам, колішнім маім вучнем-дзевяцікласнікам, чарнявым, рослым хлапцом з жывымі вачыма, рабочым трактарнага завода. Зноў ён, як колісь вясной, прапанаваў мне пад'ехаць суботкай да яго на Лагойшчыну, у родныя Скорады, пахадзіць, парыбаліць на Звонцы-рацэ ў кампаніі з дзядзькам Рыгорам і Мікалаем Іванавічам, скорадскім настаўнікам. Я жыва ўспомніў першую вясновую паездку, яе радасці, шчаслівыя хваляванні, уражанні і адразу згадзіўся. Было жаданне яшчэ раз сустрэцца з мясцінай, дзе я настаўнічаў, з яе знаёмымі і незнаёмымі людзьмі.

□

Звонка — рака сціплая, нешырокая і не надта глыбокая. Берагі параслі альхоўнікам, асакой і чаротам. На кожным кроку — гразкія балацявіны. Гляджу на яе і выдае, нібы яна заснула пад спякотным сонцам — такі лены, непрыкметны яе бег.

Ідзем узберагам са Скорадаў: папераздзе дзядзька Рыгор, былы тутэйшы ляснік, пенсіянер, за ім — Мялешка, настаўнік, я і Хведар. Асадзісты, крутаплечы, дзядзька Рыгор збоку нагадвае сабой лугавы валун, парослы сівым мохам. Ступае цяжка, грузна, так што дзёран прагінаецца. Зрэдку прыцішае хаду, пасоўвае на патыліцу саламяны брыль, аціpae пот. Чалавек упарта не паддаецца гадам. Не тое, што Мікалай Іванавіч — яго, сутулага, цёмнатварага і невысокага, яны, як кажуць, выпетралі і высушылі. За плячыма ў іх тугія рукзакі, у руках вуды і спінінгі; гэткія ж торбы, рыбацкія прычындалы і ў нас з Хведарам. У лад хадзе рыпяць на нагах ва ўсіх гумавыя боты, асабліва ж у дзядзькі Рыгора — так і выдае, што дзесь паблізу сярод дня ўсчаў сваю песню драч.

Ідзем да вусця—лесу і азярыны за Завішынам. Там трохі парыбачым, а потым падамося да Дзвінасы, да глухаманнага Падстарыцкага бору. Да Падстарыцы ад Завішына кіламетраў дзевяць. Пакуль датопаем — займецца вечаровая зара, найлепшы і наймілейшы час рыбнага лову. Там мы і пераначуем ля вясёлага вогнішча.

Падымаюся на сухі грудок і зноў аглядаюся на Завішына. З відавоку яно выдае вельмі вялікім, і сваім малюнкам, разбегам дарог і хат нагадвае крыж, што скоса ляжыць у распадку між двума лясіста-палявымі ўзвалкамі. Малая крыжовіна яго ўпіраецца адным канцом у невялікую краму, другім — у новую школу. А між гэтымі будынкамі клуб, малочная, ветэрынарная лячэбніца. Тут, як кажуць завішынцы, «двор» сяла. Тут і цэнтральная сядзіба мясцовага калгаса «Шлях Леніна».

Сонца пячэ ўжо, здаецца, у саменькую макаўку галавы — полудзень... Душна, горача. Між рачнога альхоўя дрыжыць марыва, стаіць бялёсая сму-

# ВЕЦЕР З БАЛТЫКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.)**

«Там жа снарады!—апаліла Алеся жудасная думка.—Калі яны ўзарвуцца—на паветра ўзляціць увесь карабель!» Адчуваючы ў нагах нязвыклую слабасць, Алесь нахіліўся, падняў ля сваіх ног кавалак сарванага выбухам брызента і, цягнучы яго за сабой, хістаючыся, падаўся да адсека. З цяжкасцю залез туды, закашляўся ад густога дыму і раптам пачуў хваравіты працяглы стогн. Ён нахіліўся ніжэй і ўбачыў раненага наводчыка, да ног якога падбіраліся языкі агню. Алесь кінуў на іх брызент, патаптаў яго і, учапіўшыся за робу наводчыка здаровай рукой, пацягнуў за сабой. Выпхнуў страшэнна цяжкае цела на палубу, глынуў на ўсе грудзі паветра і зноў палез туды, дзе бліскаў агонь. Намацаў рукой гарачы брызент і стаў накідваць яго на прагныя чырвоныя пасмы. Заўважыў двух забітых, але цяпер гэта ўжо не ўразіла яго, бо ў галаве білася адна думка: толькі б вытрымаць, толькі б пагасіць агонь. Праз удушлівы дым ён убачыў, што ў супрацьлеглым куце мітуслівыя языкі агню падбіраліся ўжо да блішчастых галовак снарадаў. Адчуваючы, як пахаладзела ўсярэдзіне, кінуўся туды, але зачапіўся за забітага і моцна даўся параненым плячом аб пераборку. Колькі хвілін ляжаў нерухома, не цяміў, што з ім. Расплюшчыў вочы, зноў убачыў латунныя галоўкі снарадаў і скалануўся: агонь лізаў адну з іх. Стогнучы, папоўз да снарада, а мозг балюча свідравала адно адзінае: хаця ж бы паспець, толькі б не страціць прытомнасць! А калі дапоўз, накінуў на агонь брызент і лёг на яго жыватом, сілы раптоўна пакінулі яго. У думках пачаў упрошваць сябе не ляжаць, а выбірацца з адсека. Перад вачамі гойдаўся дымны змрок, пякло ногі, на якіх гарэлі калашыны штаноў, душыў кашаль, адбіраючы рэшткі апошніх сіл. І ўсё ж страшэнным намаганнем волі ён прымусіў сябе паўзці да таго святла, ад якога цягнуўся смярдзючы дым. Гэтыя некалькі метраў здаліся яму бясконцымі, і, калі нарэшце ён высунуў тулава над палубай, першае, што ўбачыў,—быў нямецкі эсмінец, які палаў агнём. Паспеў яшчэ заўважыць матросаў, што беглі да яго...

З небыцця яго вырвалі галасы. Першы голас належаў камандзіру карабля, другі быў незнаёмы, у ім гучалі варожыя ноткі. «Вы хочаце яго арыштаваць? Вось ён, арыштоўвайце. Я ж прадстаўляю яго да Георгія. Гэты злачынца, як вы кажаце, выратаваў карабель»,—данесліся да Алеся словы камандзіра. «Жандары. За мной прыйшлі»,—падумаў ён і памкнуўся ўстаць. Нешта тупое і гарачае ўдарыла ў плячо, постаці людзей паплылі перад вачыма, зніклі, і на яго навалілася балючая чорная цішыня...

— Не чапіся ты да мяне са сваёй бабскай гаворкаю! Чуеш? І кінь ты сваю гаману, а то як дачуюцца—уведаеш такую праўду, што... Цьфу, якая ты ўпартая!..

«А каб табе зарвала! — вылаяўся ў думках Алесь.—Што ты аўраліш тут сярод ночы?!» Але праз якую хвіліну пачаў дакараць сябе за такія нядобрыя думкі. Чалавек вунь ажно зубамі ў сне скрыгоча, крычыць, як бы хто яго жыўцом рэжа, і хіба ж можна яго за такое вінаваціць? Самому ж пячэ душу незагойная рана, і як бы ні кідаўся ў свае ўспаміны, як бы ні хітраваў, наўмысна выклікаючы іх, усе яны непрыкметна сыходзіліся на Ніне, на яе жахлівай смерці, і тады скрыгатнеш зубамі, бязгучна застогнеш, а потым доўга ляжыш, нічога не цямячы ад нястрымнага унутранага болю, ад якога хрумстаюць, сціскаючыся ў кулакі, пальцы.

Алесь пачуў, як салдат горка заплакаў у сне. Праз які час ён сцішыўся, і Алесь, з палёгкай уздыхнуўшы, падумаў, што трэба будзе раніцай паспрабаваць загаварыць з ім, разварушыць яго і чым можна дапамагчы, бо вельмі кепска, калі чалавек у такім стане застаецца з сабою сам насам. Алесь пацёр параненае плячо, і, узрадаваны тым, што боль незаўважна суняўся, павярнуўся на бок і заплюшчыў вочы.

га. Неяк пацяжэла цішыня, паветра — паглухлі далі. Вада зіхка пераліваецца на сонцы, ад яе цямнее ў вачах.

Выходзім на сцяжыну да старой школы. Сцяжына, цупкая, пазеленелая ад лугавой сырасці, уецца падворкам паўз мураваную камяніцу, паўз запушчаны адзічэлы садок і крута збягае да Звонкі. Гляджу на шэрую, з круглымі слыхавымі аконцамі ў паддашку мураванку. Віснуць на скасабочаных круках палавінкі дзвярэй, вокны запыленыя, правы вугал у будынку асеў. Няўжо ён адстояў сваё, нікому непатрэбен? Але ж не: зімой там кватараваліся школьнікі з далёкіх вёсак. (На другім паверсе яшчэ можна жыць). А цяпер тут ціха. Нават не верыцца, што ў гэтым будынку яшчэ жывуць дзяўчаты-настаўніцы — «трое, саўсім маладзенькія», як сказала мне Зінаіда Рыгораўна Аленчык, калгасны парторг.

Міхась ВЫШЫНСКІ

# НА ЗВОНЦЫ-РАЦЭ

НАРЫС

Знаходжу вачыма вакно былога свайго пакоіка — вунь яно, над самай макаўкай выносістай рабінкі, запыленае, сляпое, з белым абрэзкам провада ў раме. Апускаю позірк, і ў адзін нейкі пранізліва трапяткі момант нанова ўяўляю былое сваё жыццё ў тым пакоіку. Пасля, быццам на яве, бачу невысокую ростам ціхмяную фізічку ў лёгкім сарафанчыку, з якой гаварыў там на «двары», чую яе таропкія словы: «Ой, ой, ледзьве зімку перажылі — так было холадна там!» (У гэтай, значыць мураванцы). І разумею, што азначаюць яны: сам жа быў на яе месцы. Сапраўды, «душа» ў гэтай камяніцы — мёртвая лядзяшка: як ні напальвай печы, не растопіш яе.

— І холадна, і няўтульна, — заключаю сабе ўслых.

— Што, што? — знянацку перапытвае Мікалай Іванавіч, у вачах яго — здзіўленне і неўразуменне.

— А гэта... тутэйшым настаўніцам, — паспешліва адказваю. — Нясоладка ім тут. Добра калі пратрымаюцца ў школе яшчэ які год-другі.

— Пакуль яно так, з бытам гэтым, — ківае галавой Мікалай Іванавіч. — Але пакуль... Во як выйдзем пад Куткава, пабачыш новы калгасны пасёлак — Берашэвіч, старшыня наш, шмат будуе. Як паселіць там усіх калгасных спецыялістаў, нябось, тады і настаўніц успомніць. (Некаторыя з іх, да слова, ужо жывуць там...) Будзе ў іх і цёплае жытло, і неблагая арцельная сталоўка. Але, от што я вам скажу: не з гэтай прычыны яны могуць не адзержацца часам у вёсцы...

— З чаго ж тады? — насцярожваюся я.

— А з таго, што ў школе нялёгка працаваць. Шчыруеш, пане-братка, і ў школе, і ўдома, часам да трэціх пеўняў, а ўсяго не перарабляеш. «Хоць ты спаць не кладзіся», — як кажуць старыя настаўнікі. Заўваж: старыя настаўнікі. А што ўжо гаварыць ім, маладым? Веды ў іх ёсць, і добрыя веды, а настойлівасці, цярпення яшчэ не хапае.

— Не тое, Іванавіч, гаворыш, — азваўся дзядзька Рыгор. Я нават прыпыніўся: яшчэ не бачыў дзядзьку такім катэгарычным і гарачлівым у слове. — Бяда тутака адна: хлопцаў у сяле няма. А дзяўчатам што трэба, як падказвае прырода? Замуж выйсці, гняздо, дзяцей, сямейку займець — словам, цвёрды грунт жыцця. Тагды іх адсюль і рагачом не выпараш.

— Няхай з мужамі едуць да нас, — зарагатаў Хведар.

— Не смейся, — паморшчыўся дзядзька Рыгор. — Упэўнен, што не адна з іх ад бяды застацца ў дзеўках слязьмі падушку мачыла... Была ў мяне на кватэры адна, ведаю. От таму і ў горад збягаюць. Будуць, трэсні-лясні, хоць якую работу рабіць, мучыцца на чужых кватэрах, абы не адчуваць сябе адзінокімі.

— Хм, можа і праўда, — пажаваў сухімі губамі Мікалай Іванавіч. — Маладым хочацца шырэйшых сувязей з людзьмі, са светам, дзе яны змаглі б і сябе паказаць, і на другіх паглядзець. А ў нас што? Людзей у вёсцы мала, усе ведаюць адзін аднаго і нікога нічым не здзівіш. А ў горадзе — бойкасць, прастор.

— Прастору і ў нас хопіць. Пра іншае я, — прабурчаў дзядзька Рыгор.

□

Выходзім да рэчкі. Яна тут за школаю яшчэ больш павузела і паплытчэла. Вада да донца празрыстая, сонечная, ажно серабрыцца. Травы і краскі ціха глядзяцца ў яе. Зрэшты мне цяпер не да харастваа ракі, лугавіны. Гаворка-спрэчка са спадарожнікамі яшчэ болей раскатурхала душу, абудзіла свае даўнія настаўніцкія трывогі, клопаты, словам, мне ўжо было не да рыбы.

Па варушкіх жэрдачках-кладачках пераходзім на другі высокі бераг. З яго, нібы на далоні, відаць на пагорку новы калгасны пасёлак. З вострай цікавасцю ўглядаюся ў яго — пры мне гэтага пасёлка не было. Абоч бітай дарогі табуняцца бетонныя электраслупы, белыя двухпавярховыя дамкі, акуратныя гародчыкі і хляўкі за імі. За дарогай мядзяна зіхціць на сонцы агромністая фігура воіна — помнік усім завішынцам, нестанавічанам, ляўданцам і руднянцам, якія не вярнуліся з ваенных дарог, з блакадных лясоў. Наўкола помніка — як зірнуць вокам — залацістае мора жыта.

— Ну і як выгляд? — пытае, пасміхаючыся, Хведар.

— А нішто, — адказваю з нечаканай для сябе радасцю. — Своеасаблівы вясковы мікраараён.

— Тота ж. Сёе-тое мяняецца і ў нас, я ж казаў. Але от дзіва: чамусь вясковыя не вельмі ахвотна селюцца ў гэтыя дамы. Не прывыклі да супольнага жыцця. На сваіх селішчах у іх садок, агароды, хата, як бы свой асобны свет, а тут.

— Цяпер калгасу што, лацвей будавацца, — павяртае гаворку Мікалай Іванавіч, — бярэ штогод пад шэсцьдзесят тысяч чыстага даходу. Не тое, што некалі. — І спахопліваецца: — Як ты, Антонавіч, думаеш, што бялеецца унь там на прылессі?

— Здаецца, авечкі пасуцца.

— Авечкі, — усцешана смяецца настаўнік. — Самае што ні на ёсць страхалюднае каменне — з усяго поля пасцягвалі. Зямля тут, даражэнькі, такая. Яшчэ змалку помніцца, як маці жалілася, што зямліца наша няўдобіца, не для хлебнага коласу, а для гор-

(Заканчэнне на 13 стар.).



Аб'ектыў фотакарэспандэнта Лідскай раённай газеты А. Стадуба занатаваў куток кнігарні, што знаходзіцца ў вёсцы Беліца. Вось так кожны дзень — толькі адкрыецца кнігарня, як сюды ідуць і ідуць людзі.



## МАРШРУТЫ ДРУЖБЫ, МАРШРУТЫ ЕДНАСЦІ

Ад вёскі Глушкавічы што ў Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці, да вёскі Капішча, што на Жытоміршчыне — рукой падаць. Спакон веку жывуць у міры і згодзе, дзеляць клопаты і радасці жыхары абедзвюх суседніх вёсак — беларусы і ўкраінцы.

Адметная рыса тутэйшых калгаснікаў — вельмі любяць яны песню. Зараз цяжка сказаць, хто першы параіў стварыць сумесны харавы калектыў. Але задума знайшла гарачы водгук у абедзвюх вёсках, і вось нарадзілася харавая капэла «Славяне», у якую ўвайшлі і беларусы, і ўкраінцы. Сёння капэла налічвае 110 чалавек. Узначальвае яе хормайстар з вёскі Глушкавічы П. Грачэўскі. У рэпертуары капэлы беларускія і ўкраінскія народныя песні, песні іншых народаў СССР.

У гамяльчан даўнія сяброўскія сувязі з працоўнымі Жытомірскай і Чарнігаўскай абласцей Украіны, Бранскай вобласці РСФСР, з якімі яны мяжуюць.

У мінулым месяцы ў гарадскім пасёлку Церахоўка Добрушскага раёна адбыўся фестываль самадзейнага мастацтва, у якім прынялі ўдзел больш дваццаці калектываў з трох братніх рэспублік.

У сваю чаргу маршруты самадзейных артыстаў з Гомельшчыны праляглі праз гарады і вёскі Украіны і РСФСР. Так калектыў мастацкай самадзейнасці Ельскага раённага дома культуры прымаў удзел у фестывалі самадзейнага мастацтва ў Оўруцкім раёне Жытомірскай вобласці. Спевакі, чытальнікі, танцоры Брагінскага РДК выязджалі ў горад Чарнобыль Кіеўскай вобласці, дзе выступалі перад будаўнікамі Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, рабочымі, навучэнцамі. Прыбыткаўскі народны хор з Гомельскага раёна дэманстраваў сваё майстэрства перад аматарамі мастацтва з вёскі Іванава, што на Чарнігаўшчыне. У сваю чаргу Іванаўскі народны хор гастраляваў у Гомельскім раёне.

Пастаянна абменьваюцца канцэртамі Лоеўскі і Рэпкінскі (Чарнігаўшчына) раённыя дамы культуры.

Ёсць што запісаць у актыў і Гомельскаму музычнаму вучылішчу. Будучыя музыканты разам са сваімі педагогамі выязджалі ў Чарнігаў і Бранск, а навучэнцы тамашніх музычных вучылішчаў прыязджалі з канцэртамі ў госці да гамяльчан.

М. МІХАЙЛАЎ.

## ЗНОЎ У МІНСКУ

З гастрольнай паездкі па краіне вярнуўся калектыў Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларускай ССР.

Наш карэспандэнт сустрэўся з дырэктарам капэлы В. Аўраменкам і папрасіў расказаць пра гэту паездку, пра новы канцэртны сезон.

— Летнія гастрольныя маршруты капэлы праляглі па гарадах Расійскай Федэрацыі, Украіны, Малдавіі. Пачаліся гастролі 9 жніўня ў Маскве, дзе мы далі тры канцэрты. Затым наш шлях ляжаў праз Палтаву, Харкаў, Варашылаўград, Данецк, Днепрапятроўск, Запарожжа, Севастопаль, Ялту, Алушту, Адэсу, Кішынёў. І ўсюды нас сустракалі надзвычай гасцінна. Адзначу, што ўкраінцы і малдаване вельмі любяць і добра разумеюць харавыя спевы. У Кіеве, дзе мы выступалі на эстрадзе гарадскога парку, нам апладзіравалі больш за дзве тысячы чалавек. Шматмільённая аўдыторыя глядзела і слухала нас па Украінскаму тэлебачанню.

Да гастролей мы рыхтаваліся асабліва старанна. Папоўнілі рэпертуар творамі кампазітараў братніх рэспублік. У іх ліку акапэльная сюіта ўкраінскага кампазітара Кос-Анатольскага «Гэй, сябры, паўстанцы!», малдаўская народная песня ў апрацоўцы М. Нікулеску «Вось так», «Вей, ветрык!» латышскага кампазітара А. Юр'ена і інш.

Раніцай 20 верасня артысты прыляцелі з Кішынёва, і ў той жа дзень капэла выступіла ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, адкрыўшы тым самым новы канцэртны сезон. Наперадзе вельмі адказныя выступленні на фестывалі мастацтва народаў СССР, які пачнецца ў рэспубліцы ў кастрычніку. У святочнай праграме творы І. Лучанка, К. Цесакова, Д. Смольскага, Г. Вагнера, Ул. Алоўнікава, Я. Цікоцкага і іншых.

31 кастрычніка ў Мінску адбудзецца справаздачны канцэрт нашай капэлы, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. Гэта таксама для нас вельмі адказны экзамен, да якога мы рыхтуемся ўжо цяпер. Пачалі рыхтаваць і праграму, якую пакажам у Маскве ў дні святкавання 50-годдзя ўтварэння СССР.

## У ЭФІРЫ — «КРЫНІЦА»

Так будзе называцца новая штодзённая інфармацыйна-палітычная і музычная праграма Беларускага радыё. Яе перадачы будуць трансліравацца з першага кастрычніка па радыёстанцыі на хвалі 750 метраў і УКХ з 10 да 12 гадзін. Кожны паўгадзінны адрэзак уключыць у сябе 5-мінутны выпуск навін — інфармацыя, інтэрв'ю, каментарый, рэпартажы з будоўляў, заводаў, навучальных устаноў рэспублікі, а таксама паведамленні з-за рубяжа.

А далей — музыка. У эфіры будуць гучаць класічныя і эстрадныя творы, песні народаў СССР. Выканаўцы — прафесійныя калектывы, вядомыя спевакі, удзельнікі мастацкай самадзейнасці. Асобныя канцэрты будуць складацца па прапановах і заяўках радыёслухачоў.

Л. КІСЯЛЁЎ.

## СЕМІНАР МЕТАДЫСТАЎ ПА НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

У Гомелі адбыўся чатырохдзённы семінар метадыстаў аддзелаў дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва абласных дамоў народнай творчасці і дамоў мастацкай самадзейнасці. Тэма семінара — задачы метадыстаў па падрыхтоўцы да абласных і рэспубліканскай выстаўкі-конкурсу ў гонар 50-годдзя ўтварэння СССР.

Даклад «Асноўныя тэндэнцыі ў развіцці сучаснай самадзейнай і народнай творчасці» зрабіў для ўдзельнікаў семінара намеснік дырэктара Рэспубліканскага дома народнай творчасці Ф. Валадзько.

Удзельнікі семінара паслухалі таксама лекцыю мастака і мастацтвазнаўцы В. Гаўрылава «Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і сучаснасць».

Метадысты сустрэліся са славутымі неглюбскімі ткачыхамі. Яны паглядзелі фільм пра ткачых «Ад родных ніў».

Пра падрыхтоўку да зanальных, абласных і рэспубліканскай выставак дэкаратыўна-прыкладнога народнага і самадзейнага мастацтва гаварылі ў сваіх выступленнях на семінары метадысты Е. Красічкава (Мінск), І. Шутава (Віцебск), Э. Яворскі (Магілёў).

З. ЛАТЫНІНА.

## АНСАМБЛЬ ЗАВЕЦЦА «КУПАЛІНКА»

На базе Азершчынскага народнага хору нядаўна арганізаваўся вакальна - інструментальны ансамбль пад паэтычнай назвай «Купалінка». Ансамбль з вялікім поспехам выступае перад шматлікімі гледачамі. Мастацкі кіраўнік ансамбля М. Ліўшыц расказвае:

— Калектыў у нас дружны і працавіты. Ансамбль існуе некалькі месяцаў і мы прыкладаем усе сілы, каб гледачы былі задаволены, каб адпачынак іх быў яшчэ больш разнастайны і карысны. Да вялікага свята савецкага народа — дня ўтварэння СССР — рыхтуем новую праграму.

Днямі ансамбль «Купалінка» з поспехам выступіў перад сельскімі працаўнікамі вёскі Каравацічы.

Бурнымі апладысментамі сустрэлі хлебаробы салістаў Юрыя Сапожнікава і Леаніда Дворніка. Спадабалася выступленне Александрыны Лапацінай, якая выканала песню «Цыганка - малдаванка». Цёпла сустрэлі гледачы жаночы квартэт «Усмешка» за выкананне песні «Любімаму гораду». Гэтую песню напісаў кіраўнік ансамбля М. Ліўшыц. Былі выкананы песні «Таварыш», «Балада аб кветках», «Чырвоная рута», «Касіў Ясь канюшыну» і інш.

Поспех «Купалінкі» расце з кожным днём. У гэтым значная заслуга гукааператара Аляксандра Арлова і гітарыста Анатоля Лапаты.

І. САВІЦКІ.

г. Рэчыца. Гомельскай вобласці.

З пошты «ЛіМа»

# БЕРАГЧЫ ГОНАР «ЛЯВОНІХІ»

НА СВІТАННІ сонечнага дня мне прыгадалася: цячэ старажытная рака Бяроза (як яе называюць у народзе), а над ёй—песня, старадаўняя, мудрая, як гэтая маўклівая і задумная надрэчная даліна... Спявае Наталля Халецкая. Старэйшую спявачку ахвотна слухаюць не толькі землякі: за песеннае майстэрства Наталлі Сідараўне горача апладзіравалі жыхары Пухавіч, Чэрвеня, Смалявіч, Барысава, Салігорска...

Праз усё жыццё гэтай жанчыны цякла, як плынь рачная, звонкая песня. Спявала яна яшчэ і ў часы паднявольнага панскага жыцця, чаравала сваім голасам ў полі калгасных жней, на вясковых вечарынках, хрэсбінах і радзінах.

Разам з Халецкай спяваюць у ансамблі яе сяброўкі: Ірына Шых, Лідзія Архіпец, Аляксандра Раманоўская, Кацярына Рамановіч і многія іншыя. Аб старым і новым жыцці вёскі Трасцянкі расказваюць у песнях Марыя Копка, Вера і Вольга Жукоўскія. Праўда, і яны ўжо немаладыя. І не толькі здатныя да песень гэтыя жанчыны, але і да шчырай працы. Многія з іх працуюць у жывёлагадоўлі. А работа на ферме забірае шмат часу, патрабуе волі, самаадданасці. За старанную работу некаторыя працаўніцы былі ўдастоены Ленінскіх юбілейных медаляў.

Вакальна-этнаграфічны ансамбль «Лявоніха» — лаўрэат абласнога агляду-конкурсу харавых калектываў; іх песні гучалі па рэспубліканскім радыё, тэлебачанні. Ансамбль выступае не толькі ў межах рэспублікі — чароўнымі народнымі мелодыямі жанчын захапляліся гледачы маскоўскай сцэны.

Жаночы народны вакальна-этнаграфічны ансамбль «Лявоніха» пакуль што адзіны на Міншчыне. «Лявоніха» каля сямі год прапісана ў Трасцянцы, але ў ансамблі ўдзельнічаюць жыхары Глухога Тока, Краснаполля, іншых навакольных вёсак. Спявачкі здалёк збіраюцца на рэпетыцыі. І вось гэта — яскравы прыклад таго, што клопату і ўвагі «Лявоніхе» ўдзяляюць не так і многа. Немаладым жанчынам у зімовую і вясеннюю бездараж дабірацца на спеўкі ох, як нялёгка.

У саўгасе «Сцяг Кастрычніка», безумоўна, ганарацца ансамблем. Толькі вырашаць тыя ці іншыя праблемы дапамагаюць не асабліва ахвотна. Некаторы час ансамбль базіраваўся ў раённым доме культуры. Але многія ўдзельніцы яго жывуць і працуюць за чатыры кіламетры ад райцэнтра. Ім, вядома, нязручна дабірацца ў горад, тым больш, што рэпетыцыі адбываюцца звычайна пасля работы. А рабочы дзень у працаўнікоў фермы заканчваецца позна. Таму і вырашылі жанчыны зноўку вярнуцца дамоў у Трасцянку. Тут яны арандуюць прыватны пакой, дзе самім прыходзіцца клапаціцца аб паліве, каб у памяшканні было цёпла і ўтульна.

Ні транспарту, ні ўласнага кутка... І толькі калі ансамбль спатрэбіцца для гастрольнай паездкі, знаходзіцца аўтобус, зрэшты, часам падаецца і звычайная бартавая машына. Напэўна ў даным выпадку жанчынам патрэбна дапамога. І яе могуць аказаць у той ці іншай ступені кіраўнікі саўгаса «Сцяг Кастрычніка», аддзел культуры райвыканкома. Трэба цікавіцца і песнямі ўдзельніц ансамбля, і іх умовамі, побытам.

Здольныя салісткі ансамбля не толькі спяваюць, але і танцуюць. Аднак і з касцюмамі не ўсё добра, — іх не хапае. У наш час, на жаль, старадаўніх рэчаў становіцца ўсё менш. Гардэроб жа «Лявоніхі» павінен абнаўляцца пастаянна.

Загадчык аддзела культуры райвыканкома М. Сакаў расказвае:

— Мы заказалі касцюмы ў Барысаве на фабрыцы мастацкай вышыўкі. Па нашай просьбе ткуць адзенне надомніцы — майстрыхі ў Івянцы.

Хораша апрануць «Лявоніху» дапамагае, як гаворыцца, увесь раён. А хто клапоціцца пра іншыя вакальна-этнаграфічныя гурткі? Іх жа ў раёне пяць. І працуюць яны ў больш складаных умовах, не маюць мастацкіх кіраўнікоў. Але энтузіясты рыхтуюцца і выступаюць. Люба глядзець іх канцэрт. Тое, што артысты-самародкі падслухалі ў песенным надрачанскім краі, яны па-майстэрску перадаюць гледачам. На багатым мясцовым матэрыяле нараджаюцца прыпеўкі з танцамі, песні на словы мясцовых аўтараў.

...Жыве, папаўняе свой рэпертуар «Лявоніха». Нясуць людзям радасць і другія калектывы. Трэба, каб у раёне не забывалі пра іх.

**І. СУХАРУКАЎ,**
загадчык метадычнага кабінета Палаца культуры Мінскага трактарнага завода.



Юныя актывісты Кобрынскай дзіцячай бібліятэкі ахвотна дапамагаюць Анфісе Іванаўне Прохаравай і Ірыне Яўгенаўне Наварка (справа).

# НАША РАЁННАЯ ДЗІЦЯЧАЯ...

Міжнародны год кнігі накладвае на кожнага бібліятэчнага работніка дадатковыя задачы. У рэспубліцы ёсць нямала добрых бібліятэк. Адной з іх названа наша раённая дзіцячая бібліятэка, калектыў якой атрымаў дыплом пераможцы Усесаюзнага грамадскага агляду бібліятэк, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна.

Тое, што тут заўсёды ёсць самыя цікавыя дзіцячыя навінкі, а работнікі бібліятэкі могуць параіць і дапамагчы выбраць добрую кнігу, прыцягвае сюды школьнікаў Кобрына. З радасцю прыходзяць яны ў гэты будынак, у яго невялікія пакоі, запоўненыя кнігамі.

Добра арыентавацца ў бяскрайнім моры кніг — справа нялёгкая. Гэтай навукай дасканала валодае Марыя Абрамаўна Слабоднік — загадчыца бібліятэкі. Ленінградскі бібліятэчны інстытут імя Н. К. Крупскай даў ёй трывалыя веды. Амаль трыццаць гадоў Марыя Абрамаўна выхоўвае ў моладзі любоў да кнігі і робіць гэта надзвычай удумліва і ўмела.

Ёй удалося стварыць у калектыве абстаноўку творчую і дзелавую, дзе сам па сабе ўзнікае ўзаемны давер, нараджаецца патрэба ў настойлівай рабоце.

Вось загадчыца абанемента бібліятэкі Валянціна Іванаўна Акімава. Яна толькі што вярнулася з дыпломам завочнага аддзялення бібліятэказнаўства і бібліяграфіі Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. А яе сяброўка Анфіса Іванаўна Прохарава, бібліятэкар, займаецца завочна на другім курсе таго ж інстытута. У хуткім часе ў калектыве з пяці чалавек, трое будуць мець вышэйшую бібліятэчную адукацыю.

Ці проста гэта—стаць выдатнай бібліятэкай? Кобрынская раённая бібліятэка не толькі атрымала гэта званне, але сёлета значна павысіла ўсе паказчыкі (чытальнасць, колькасць наведванняў і г. д.), якія і ў мінулым годзе былі самымі высокімі па вобласці.

З вопытам работы бібліятэкі знаёміліся ўдзельнікі рэспубліканскага семінара сакратароў райкомаў камсамола Магілёўскай і Гомельскай абласцей, Марыя Абрамаўна выступала на рэспубліканскім семінары загадчыкаў бібліятэк, на абласных семінарах і нарадах. Добра ведаюць тут і ўкараняюць у практыку думкі выдатнага педагога і арганізатара бібліятэчнай справы ў нашай краіне Н. К. Крупскай: «Нельга чакаць ад самай лепшай школы, што яна дасць дзіцяці ўсё, што яму трэба. Якія б ні былі добрыя праграмы, яны недастатковыя. Трэба, каб дзеці папаўнялі чытаннем тыя веды, якія дае ім школа». Таму бібліятэкары ідуць у школы, каб лепш ведаць густы сваіх юных чытачоў, нават у падрыхтоўчыя групы дзіцячых садоў. З якой цікавасцю малышы слухаюць гутаркі «Наша бібліятэка», «Кніга—твой лепшы сябар». Гэтыя ж гутаркі праводзяць лепшыя выкладчыкі-прадметнікі. Дзеці—сувязныя, якія ёсць у кожным класе школ горада, складаюць рэкамендацыйныя спісы па класах.

Увогуле, калектывам нашай раённай дзіцячай бібліятэкі выхоўваюцца сапраўдныя сябры кнігі. Ахвотна дапамагаюць яны ў перарэгістрацыі чытачоў, у бібліятэчнай апрацоўцы паступіўшай літаратуры, у расстаноўцы кніжнага фонду для малодшага ўзросту, прапагандуюць новую літаратуру, рамантуюць кнігі. Амаль на дзевяць тысяч экземпляраў кніг папоўнілася бібліятэка за першы год дзевятай пяцігодкі, з апярэджваннем асвойваюцца асігнаванні і сёлета. Кніга за кнігай збіраюцца сюды не толькі з мясцовых магазінаў, але і з Мінска, Ленінграда, ідуць пасылкамі «Кніга — поштай». Кожная з іх знаходзіць свайго чытача.

Але не толькі гэта. Амаль у шэсцьдзесят бібліятэк раёна паступае адсюль метадычная і практычная дапамога. Калектыў бібліятэкі выязджае на сяло, рыхтуе да разгляду пытанні бібліятэчнай работы на пасяджэннях выканкомаў сельскіх Саветаў дэпутатаў працоўных, савета аддзела культуры, праводзяць практыкумы з маладымі бібліятэкарамі. Спраў шмат, і самых розных. І справіцца з імі могуць людзі, якія любяць кнігу, умеюць давесці яе да чытача.

Калектыву, дзякуючы якому Кобрынская раённая бібліятэка стала лепшай у раёне і Брэсцкай вобласці, нядаўна аказан вялікі гонар: ўдельнічаць у Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР, у сталіцы нашай Радзімы — Маскве.

**А. СУШЧУК,**
загадчык аддзела культуры Кобрынскага райвыканкома.

# ГАЛАСЫ СТАРАЖЫТНАЙ РУСІ

На Гомельшчыне працуе археаграфічная экспедыцыя Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М. В. Ламаносава. Яна вядзе збор і апісанне помнікаў старажытнай пісьменнасці, жывапісу, музычнай культуры. Кіруе экспедыцыяй кандыдат гістарычных навук Ірына Васільеўна Паздзеева. Вось што расказала яна аб мэце, маршрутах, знаходках экспедыцыі:

— Савецкія людзі паважаюць культуру ўсіх народаў. І, вядома, глыбока цікавяцца гісторыяй духоўнага развіцця народаў нашай краіны. У апошні час адна з экспедыцый Маскоўскага універсітэта наведвае раёны, дзе мяжуюць Расія, Украіна, Беларусь. Тут, паводле меркаванняў вучоных, захоўваецца шмат помнікаў старажытнарускай пісьменнасці, старадрукаў.

Якая навуковая каштоўнасць гэтых помнікаў? Трэба сказаць, што ў даўнія часы толькі ў паасобных летапісах ды прытчах-павучаннях паказвалася жыццё простага народа, яго светапогляд. Пераважная большасць старых рукапісаў, старадрукаў, твораў жывапісу, музыкі былі рэлігійнага зместу. Аднак і ў гэтых помніках даўняй культуры можна знайсці нямала каштоўнага і пра самых людзей далёкіх стагоддзяў, і пра іх духоўныя інтарэсы, і пра развіццё мастацтва.

Захавалася, напрыклад, не так многа рукапісных і старадрукаваных рэліквій, створаных да сярэдзіны XVII стагоддзя, калі патрыярх Нікан правёў царкоўную рэформу, выпраўленне і перапіс царкоўнай літаратуры. Старажытныя рэлігійныя кнігі і некаторыя абрады забараняліся. Зразумела, не гэта было галоўнай прычынай непрымання новаўвядзенняў значнай часткаю сялян і рамеснікаў. Разам з рэформай узмацняўся і феадальны прыгнёт. Вось чаму тысячы сялян-старавераў рушылі наўцёкі з родных паселішчаў цэнтральных раёнаў Рускай дзяржавы. У Ветцы (Беларусь), у яе ваколіцах ля Старадуба і Навазыбкава (Расія), Дабранкі (Украіна) і ў іншых тутэйшых мясцінах у канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзяў з'явілася шмат беглага люду.

З пакалення ў пакаленне перадавалі, перапісвалі старавеоы даўнія кнігі. У доме Праскоўі Дзмітраўны Нікіценка, яе сястры Варвары ў вёсцы Тарасаўка сабралася больш за дзесятак такіх кніг. Некаторы час сёстры берaглі іх, а потым аднеслі на гарышча, не ведаючы, якія каштоўнасці могуць загінуць. Сярод гэтых кніг археографы выявілі рэдкі экземпляр «Статута», выпушчанага таленавітым друкаром Анісімам Радзішэўскім у 1610 годзе ў Маскве.

Члены экспедыцыі былі радасна здзіўлены, калі ўбачылі ў старажылаў Тарасаўкі зборнікі рэлігійных песень-псалмоў. Гэтыя старажытнарускія музычныя творы запісаны некалькі стагоддзяў назад «крукамі», а не нотнымі знакамі.

Да збіральніка рэдкіх кніг і рукапісаў Ф. Шклярава ў Ветцы трапіла рэліквія аж з XV стагоддзя...

Экспедыцыя выказала падзяку З. Дзямідавай, І. Баброву з Гомеля, А. Кірыленку з вёскі Мар'іна Добрушскага раёна, Н. Лапшынаву, Г. Анікеічу з Веткі, І. Казьміну з Тарасаўкі, Ф. Салоўскаму і Т. Сінягрыбаву з Папсуеўкі Веткаўскага раёна і іншым людзям, якія зразумелі дзяржаўныя інтарэсы экспедыцыі, памаглі сабраць рэліквіі. На унікальных кнігах, рукапісах, каштоўных іконах назаўсёды будуць указаны прозвішчы тых, хто перадаў іх дзяржаве.

**П. ЕЛЬСКІ.**

Гомель.

# ВЕЧАР ДРУЖБЫ

*У актавай зале філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна адбыўся вечар беларуска-польскай дружбы. Уступным словам яго адкрыў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю Р. Канавалаў. Пра даўнюю дружбу беларускай і польскай літаратур расказаў кандыдат філалагічных навук А. Мальдзіс. А потым гучалі вершы—на беларускай і польскай мовах. Алег Лойка прачытаў вершы прысвечаны польскім сябрам, Ніл Гілевіч — свае пераклады са Ст. Р. Дабравольскага і І. Сікірыцкага, Мікола Татур расказаў пра асаблівасці перакладчыцкай працы. Цёпла сустрэлі прысутныя дарагога госця — польскага паэта, прапагандыста беларускай літаратуры Яна Гушчу.*

*Вечар быў заключным мерапрыемствам дэкады польскай кнігі — пра вынікі яе расказала прадстаўніца гандлёвага аб'яднання «Арс-Палонс-Рух» Гелена Чыжэўска.*

# НЕАБСЯЖНЫЯ МУЗЫЧНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

*РАСКАЗВАЕ ДЫРЭКТАР БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ОРДЭНА ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЦЯГА ФІЛАРМОНІІ Г. ЗАГАРОДНІ*

ЗАЎТРА адкрываецца новы канцэртны сезон. Калектыў філармоніі пачынае яго акрылены радаснай творчай перамогай — нам прысуджаны пераходны Чырвоны сцяг, першая грашовая прэмія і Ганаровая грамата Міністэрства культуры СССР і ЦК прафсаюза работнікаў культуры за поспехі ў другім квартале бягучага года. Сваімі канцэртамі мы абслужылі 734,4 тысячы слухачоў, а гэта на 100 тысяч больш, чым прадугледжана планам. Зразумела, усім мастацкім калектывам філармоніі давялося працаваць напружана. Але наперадзе яшчэ больш ганаровыя і адказныя задачы — артысты ўсе свае намаганні засяродзілі на праграмах, якія ўвойдуць у святочныя афішы і прысвячаюцца знамянальнай даце 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік...

Блізкія і далёкія маршруты вядуць беларускіх спевакоў, танцораў, інструменталістаў, асобных выканаўцаў і вялікія ансамблі па ўсёй краіне. І ўсюды, дзе адбываюцца святы мастацтва братніх народаў, выразна і натхнёна гучыць беларуская музыка. Канцэрты Дзяржаўнага беларускага народнага аркестра пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР І. Жыновіча з вялікім поспехам прайшлі на Далёкім Усходзе, Сахаліне, у Магаданскай вобласці. Мінскі камерны аркестр (дырыжор Ю. Цырук) знаёміў са сваімі праграмамі слухачоў Ашхабада, Фрунзе, Душанбэ, Алма-Аты, Караганды. Ансамбль «Песняры» і заслужаны артыст БССР В. Вуячыч удзельнічалі ў «Маскоўскім музычным лецe»...

15 кастрычніка пачынаецца Свята мастацтва ў Беларусі. На працягу двух месяцаў на канцэртных эстрадах рэспублікі выступяць Дзяржаўны акадэмічны хор СССР пад кіраўніцтвам славутага А. Свешнікава, Дзяржаўны аркестр народных інструментаў імя Курмангазы з Казахстана, Дзяржаўны заслужаны акадэмічны ўкраінскі народны хор імя Г. Вяроўкі, Варонежскі рускі народны хор, ансамблі песні і танца з Літвы, Азербайджана, Кара-Калпакіі, ансамблі танца з Арменіі, Малдавіі, Украіны, камерны аркестр Грузіі, квінтэт духавых інструментаў Эстоніі, струнны квартэт імя А. Барадзіна і многія іншыя мастацкія калектывы. З вялікай колькасці салістаў назаву такіх, як Э. Гілельс, Я. Зак, А. Слабадзянік, Т. Мілашкіна, А. Огніўцаў, З. Далуханава, Л. Чконія, М. Шахбердыева, Т. Сіняўская, Э. Канева, Л. Ісакадзе і яшчэ многія сусветна вядомыя артысты. Разам з гасцямі з усіх рэспублік будуць дэманстраваць дасягненні нашага шматнацыянальнага мастацтва і лепшыя беларускія выканаўцы.

Нас асабліва радуе, што юбілейны канцэртны сезон філармонія адкрывае першым выкананнем у Мінску Пятнаццатай сімфоніі буйнейшага сучаснага кампазітара Дзмітрыя Шастаковіча.

Наогул сімфанічны сезон вельмі багаты на рэпертуарныя навінкі. Слухачы пазнаёмяцца з творамі І. Стравінскага, А. Шэнберга, Ф. Пуленка, П. Хіндэміта, якія яшчэ не гучалі на нашай канцэртнай эстрадзе. Адбудуцца прэм'еры новых твораў беларускіх кампазітараў.

Філармонія сёлета выпусціла дзевятнаццаць абанементаў, праграмы якіх ахопліваюць багацце класічнай і сучаснай музыкі. Яны выпушчаны для завода імя У. І. Леніна, над якім шэфствуе наш калектыў, для настаўнікаў горада, для студэнтаў універсітэта, пед-інстытута, для школьнікаў і іншых катэгорый слухачоў. Спецыяльныя абанементы прадугледжваюць і літаратурныя канцэрты.

Сярод нашых замежных гасцей, якія выступяць у абанементных праграмах,— Нацыянальны класічны аркестр Канады, Лейпцыгскі сімфанічны аркестр «Гевандхауз», дырыжоры К. Акіяма (Японія), К. Цэкі (Італія), Жан-П'ер Жакійя (Францыя). «Нямецкі рэквіем» І. Брамса будзе выкананы аркестрам пад кіраўніцтвам Д. Ойстраха.

У канцэртным варыянце мы пазнаёмім грамадскасць з некаторымі операмі беларускіх кампазітараў, якія па розных прычынах яшчэ не выконваліся або не захаваліся ў рэпертуары опернага тэатра.

Мабыць, меламанаў зацікавіць і першае выкананне ў Мінску оперы «Чалавечы голас» французскага кампазітара Ф. Пуленка.

Арыгінальным будзе канцэрт, у якім Святлана Данілюк у суправаджэнні сімфанічнага аркестра выканае праграму, складзеную выключна з беларускіх народных песень.

Значнай творчай падзеяй сёлетняга канцэртнага сезона будзе Усесаюзны конкурс піяністаў (27 лістапада — 11 снежня), які ў Мінску збярэ лепшых маладых выканаўцаў з усёй краіны.

Па традыцыі ў красавіку 1973 года будзе праведзены Тыдзень сімфанічных прэм'ер музыкі народаў братніх рэспублік СССР.

Філармонія рыхтуецца да ўдзелу ў Днях беларускай культуры ў Швецыі. У гэтым мастацкім свяце прымуць удзел баяністы А. Папоў і З. Буслаўская, цымбалісты В. Бурковіч і А. Ляончык, гітарыст А. Алоўнікаў, спевакі В. Шутава, А. Руткоўскі, М. Зданевіч і шэсць танцавальных дуэтаў. Беларускія артысты пабываюць з канцэртамі таксама ў ЧССР, ГДР і Францыі.

Не забываем мы і дзіцячую аўдыторыю. Акрамя абанементаў для школьнікаў, аб якіх я гаварыў вышэй, у сёлетнім сезоне наладжваецца (і, спадзяемся, што гэта стане традыцыяй) Тыдзень музыкі для дзяцей і юнацтва. Выканаўцамі праграм, адрасаваных самым маладым слухачам, будуць і прафесіянальныя артысты, і навучэнцы кансерваторыі і музычных вучылішчаў.

Прадстаіць юбілейны агляд канцэртных праграм салістаў і мастацкіх калектываў рэспублікі. Пераможцы агляду будуць адзначаны спецыяльнымі ўзнагародамі.

Філармонія мае намер у сезоне 1972-73 гадоў стварыць новыя мастацкія ансамблі — жаночы вакальна-інструментальны калектыў «Верасы» і харэаграфічную групу, якая павядзе творчы пошук у галіне канцэртнага танца і эстраднага выражэння фальклорнага багацця.

Мабыць, чытачам «Літаратуры і мастацтва» будзе цікава даведацца пра некаторыя арганізацыйныя мерапрыемствы філармоніі. У кожнай вобласці, акрамя Гомельскай, дзе ёсць самастойная філармонія, адкрываюцца гастрольна-канцэртныя аддзяленні. Іх дзейнасцю будуць кіраваць дырэктары - распараджальнікі, галоўныя адміністратары, рэдактары і фінансавыя работнікі. Робіцца гэта для таго, каб лепш вывучыць запатрабаванні публікі на месцах, больш аператыўна і цікава прапагандаваць дасягненні савецкага мастацтва. Палепшыцца і планаванне канцэртаў.

...Заўтра рэспубліканская філармонія сустрэне першых слухачоў першага канцэрта сезона 1972-73 гадоў. Калектыў з добрым творчым уздымам пачынае яго, імкнучыся зрабіць варты ўклад у справу ідэйна-эстэтычнага выхавання нашых сучаснікаў. Рашэнні XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза вызначылі магістральны напрамак дзейнасці работнікаў культуры і мастацтва. Імі кіруецца і наш філарманічны калектыў.



Ёсць два білеты на Пятнаццатую Шастаковіча...
Фота М. МІНКОВІЧА.

# АНДЖЭЙ ФРЫЧ МАДЖЭЎСКІ І ЯГО КНІГІ

## ДА 400-ГОДДЗЯ З ДНЯ СМЕРЦІ

Анджэй Фрыч Маджэўскі — выдатны мысліцель і публіцыст польскага Адраджэння. Ён смела ўскрываў язвы феадальнага ладу, крытыкаваў сучаснае яму шляхецкае грамадства, каталіцкую царкву, ламаў рамкі старых уяўленняў і догм, высоўваў глыбока гуманныя і патрыятычныя ідэі, якія з'явіліся дасягненнем польскай грамадскай думкі не толькі ў XVI стагоддзі, але і наступных стагоддзяў. У галіне публіцыстыкі Маджэўскі заняў такое ж выдатнае месца, як Ян Каханоўскі ў польскай літаратуры і Мікалай Капернік у галіне астраноміі

Ніхто з пісьменнікаў польскага Адраджэння не выказваў адначасова столькі рэфарматарскіх палажэнняў, як Маджэўскі, ніхто так не абараняў прыгонных, ніхто не праяўляў столькі рысаў гуманіста і патрыёта. Таму не дзіўна, што папа Павел IV аднесіў Маджэўскага да ліку забароненых пісьменнікаў, а яго праца «Аб выпраўленні дзяржавы» была ўнесена ў індэкс забароненых кніг. Праследаваліся сябры і апекуны публіцыста.

Прагрэсіўныя ідэі Маджэўскага былі ўспрыняты і знайшлі далейшае развіццё ў творах яго паслядоўнікаў. Польскі сацыёлаг-гуманіст аказаў вялікі ўплыў на фарміраванне гуманістычнай і рэфарматарскай думкі Беларусі і Літвы. Яго праца «Аб выпраўленні дзяржавы» была ўпершыню перакладзена на польскую мову ў Беларусі ў 1577 г. перакладчыкам-гуманістам Кіпрыянам-Базілікам. Па ініцыятыве Сымона Буднага гэта праца была надрукавана ў друкарні Яна Кішкі ў Лоску. Прадмову да гэтага выдання працы польскага мысліцеля напісаў С. Будны.

У прадмове Сымон Будны гаворыць пра недаацэнку Маджэўскага і яго выдатнай працы сучаснікамі. Ён піша: «Амаль усе іншыя народы нашага Фрыча і кнігі яго ведаюць, вельмі паважаюць і ў далёкіх краінах рэкамендуюць яго работы, яго кнігі і на свае мовы перакладаюць і на іх вялікі попыт; мы ж такога выдатнага чалавека, які сярод нас жыў аж да смерці, наўрад ці ведаем па імені і працы яго недаацэньвалі... А паколькі такія вялікія вучоныя людзі расхвальваюць нашага Фрыча і яго кнігі, то сапраўды мы можам здзіўляцца, што мы, палякі і ўсе сарматы, да гэтага часу мала пра яго ведалі і яго выдатныя кнігі недаацэньвалі».

Беларускі гуманіст знаходзіўся пад моцным ідэйным уплывам польскага публіцыста. Неаднаразовае паўтарэнне выразу «наш Фрыч» гаворыць аб тым, што погляды польскага мысліцеля былі блізкія Сымону Будному. Падобна да Маджэўскага, Будны патрабаваў «справядлівых» адносін да сялян, змякчэння феадальнай эксплуатацыі. Як і польскі публіцыст, Будны прызнаваў толькі такія войны, якія звязаны з абаронай айчыны ад ворагаў і асуджаў, як ганебныя, войны, якія вядуцца ў мэтах захопу чужой тэрыторыі і заняволення іншых народаў. Аналагічныя думкі Сымон Будны і Фрыч Маджэўскі выказвалі і па іншых пытаннях.

Маджэўскі ўвайшоў у гісторыю Польшчы, як адзін з выдатных і палымяных публіцыстаў эпохі Адраджэння. Яго працы з'яўляюцца гордасцю Польшчы, каштоўным укладам польскага народа ў скарбніцу сусветнай культуры.

Л. СУШКЕВІЧ.

КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ ЗА РУБЯЖОМ

# МАЛАЯ ЗАЛА імя МЛЫНАРСКАГА

«З выпадку 100-годдзя з дня нараджэння Эміля Млынарскага, выдатнага музыканта, дырыжора і арганізатара музычнага жыцця ў Польшчы, і ў пятую гадавіну адкрыцця ўзнятага з руін Вялікага тэатра, якім доўгія гады кіраваў Млынарскі, Малой зале нашага тэатра прысвайваецца імя Эміля Млынарскага. Няхай з годнасцю носіць яна гэта імя і як след служыць польскаму мастацтву».

Гэтыя словы дырэкцыя Варшаўскага Вялікага тэатра змясціла ў праграме спектакля, наладжанага ў гонар адкрыцця ў 1970 годзе Малой залы тэатра. Справядліва, ёй прысвоена імя Млынарскага, бо ён быў бліскучым кіраўніком Варшаўскай оперы. Менавіта тады тэатр перажываў свой сапраўдны залаты век.

Пры Млынарскім у рэпертуары Вялікага тэатра важнае месца займалі польскія оперы і балеты. І таму для першага канцэрта ў зале яго імя былі выбраны два творы на музыку польскіх кампазітараў малодшага пакалення. Першы з іх — цудоўная і мудрая казка Антуана дэ Сент-Экзюперы «Маленькі прынц» на музыку Збігнева Баргельскага з арыгінальнымі дэкарацыямі Ксімены Занеўскай. Да другога спектакля, названага «Джульета і Рамео», музыку напісала Бернадзета Матушчак, малады таленавіты кампазітар. «У «Джульеце і Рамео» слова, музыка, танец і спевы (невялікія вакалізы) складаюць адзінае цэлае.

Наступная прэм'ера на Малой сцэне складалася з двух аднаактовых твораў старажытных майстроў: Пергалезі «Лівіета і Тракола» і Чымарозы «Іль Маэстра дзі Капэла». Цудоўныя інтэрмецца XVIII ст. і сёння не страцілі сваіх сцэнічных вартасцей, а іх музыка, прызначаная некалі толькі для забавы публікі, не менш цудоўная, чым многія шырока вядомыя інструментальныя творы той эпохі. Аўтар польскага лібрэта да інтэрмецца «Лівіета і Тракола» І. Кульма напісала тэкст у стылі камедыі дэль артэ і ў тым жа стылі рэжысёр Л. Камарніцкі паставіў спектакль. У «Іль Маэстра дзі Капэла» сярод выканаўцаў вылзяляецца Бернард Ладыш: гэты цудоўны спявак (бас) надзелены выдатным драматычным талентам, а «Іль Маэстра дзі Капэла» дае яму выключныя магчымасці: роля, праўда, невялікая, зводзіцца да дэманстрацыі яго вакальнага майстэрства і дырыжыравання аркестрам, аднак Ладыш здолеў яе напоўніць гумарам, што выклікае выбухі смеху ў глядзельнай зале.

Апошняй прэм'ерай быў вечар балета, дакладней польскага балета ў пастаноўцы маладых харэографаў. У праграму вечара ўвашлі «Венецыянскія гульні» Вітольда Лютаслаўскага пад новай назвай «13», «Паліморфія» Кшыштофа Пендарэцкага, «Ндэге—птушка» Збігнева Турскага і «Метафразы» Ежы Максімюка.

# АСЕНАВА КРЭПАСЦЬ



Вызваленне балгараў з-пад улады Візантыі і ўтварэнне Другой балгарскай дзяржавы (1185—1396) дабратворна адбіваецца на развіцці культуры, якая стрымлівалася падчас іншаземнага ярма. У XIII—XIV стагоддзях будуюцца крэпасці, палацы, манастыры, пішуцца кнігі. Ствараюцца літаратурныя школы і школы жывапісу. Менавіта к гэтаму перыяду адносіцца і так званая Асенава крэпасць, пабудаваная ў 1231 годзе па загаду балгарскага цара Івана Асеня Другога на крутых схілах Радопаў. Цяпер ад крэпасці захавалася толькі вежа і адна царква. У сярэднявечча крэпасць мела важнае стратэгічнае значэнне. Яна абараняла праход на шляху з фракійскай нізіны да Мармуровага мора. Цяпер тут—любімае месца адпачынку турыстаў.

Агенцтва Сафія — прэс.

А. АЛЯКСЕЙЧЫК

## АЛО! ВЫ ПАМЫЛІЛІСЯ НУМАРАМ...

Ало, гэта атэлье галаўных убораў?

— Не, гэта кватэра.

Званок.

— Ало, гэта атэлье?

— Не, вы зноў памыліліся.

Званок.

— Ало, гэта атэлье?

— Слухайце, я гляджу, што гэта надоўга. Чаго вы хочаце ад атэлье?

— Я? Я хачу даведацца, ці можна заказаць капялюш, зялёны вялюравы капялюш.

— Ну дык вось, у мяне ёсць капялюш, жонка купіла. Але не падыходзіць, малы. Магу прадаць вам.

— Сапраўды? Вось добра. Тады я зараз жа ў вас буду, дзе вы жывяцё?...

Праз мінуту званок.

— Выбачайце, гэта я. Якая ў вашага капелюша стужка?

— Шэрая.

— Шэрая? Мне патрэбна чорная.

— У мяне шэрая.

— Ну, добра, зараз прыеду.

Праз мінуту званок.

— Скажыце, а берагі ў яго ўверх ці ўніз загнуты?

— Берагі загнуты ўверх.

Праз мінуту званок.

— Гэта вы? Я хацеў даведацца, ці цэлы ён у вас, капялюш? Моль яго яшчэ не пабіла?

— Ён зусім новы.

Праз мінуту званок.

— Скажыце, а чаго вы яго прадаяце? Відаць ён не вельмі, ваш капялюш?..

— Ён малы мне, разумееце!

— Выбачайце, але чаго вы нервуецеся?

Праз мінуту званок.

— Гэта вы?

— Не, каб вас чэрці дралі, гэта атэлье галаўных убораў.

— Атэлье? Прабачце, я памыліўся нумарам.

Я. ГЕРЦОВІЧ

## ЛІСТ З ЛАГОЙШЧЫНЫ

**Многа, многа развялося**
**У лясах мурашнікаў...**
**Калі ласка, дужа просім,**
**Каб прыехаў Пташнікаў.**
**Ён заўважыць без ларнета**
**Муравейку кожную**
**І пакажа ўсяму свету**
**Іх жыццё трывожнае.**
**Пройдзе борам, пройдзе гаем,**
**Паблукае ў ельніках**
**І душэўна павітае**
**Іхняе насельніцтва.**
**А затым лясы, паляны,**
**Птахі і мурашнікі**
**Пераселяцца ў раманы,**
**Што напіша Пташнікаў.**
**«Лішне гэта ці не лішне!» —**
**Крытыкі спрачаюцца,**
**Хоць паўсюдна тыя кніжкі**
**Дай бог як чытаюцца.**

## ДАДАТАК ДА ПАПУЛЯРНАЙ ПЕСНІ

**Ой, хацела мяне маці**
**Ды за крытыка аддаці.**
**Я заплакала ад скрухі —**
**Лепш застацца векавухай:**
**— Будзе грызці, пілаваці,**
**Пашкадуй ты мяне, маці.**

## У НАГУ З ЖЫЦЦЁМ

*ПАРАДЫ АУДЗЕЯ САМАСЕЯ ПАЧАТКОЎЦАМ*

Раней паэтаў было мала. Не тое, што цяпер. З кожным днём надрукавацца становіцца ўсё цяжэй. Дзе выйсце? Калі ласка, некалькі парад.

□

Вы, вядома, збіраецеся стварыць што-небудзь геніяльнае. То... не псуйце марна часу на ўзнёслыя пачуцці, а глядзіце лепей у каляндар. Адшукайце святы, якія вам найбольш да спадобы, і за працу.

Недзе за месяц да ўрачыстага дня, а лепш за два (каб быць першым), дасылайце свой паэтычны твор у рэдакцыю. Можаце не сумнявацца — яго надрукуюць. У газетах багата падобных вершаў: «Б'юць куранты», «Перад Новым годам», «Настаўнік», «Будаўнік», «Чыгуначнік», «Салдат» і г. д.

Для выбару тэмы можна выкарыстаць параду Я. Крупенькі з верша «Дні» («Чырвоная змена» № 134, 1971 г.):

**На выбар з іх любы бяры —**
**Адзначаны ў календары**
**Яны і іменем, і датай...**

Калі ў вас няма жадання рыфмаваць радкі, зрабіце сабе невялічкі слоўнічак, дзе запішыце 20—30 святочных рыфмаў. Гэтага вам хопіць на некалькі гадоў плённай творчасці. Дзе ўзяць рыфмы? Зноў зазірніце ў газеты. Тут можна сустрэць узоры выдатнай паэтызацыі: планеты — сусветы, зямлі—караблі, паход — народ (А. Астрэйка), новы год — карагод (М. Хамянкоў), зямля — Крамля, вежы — межы, год — народ, нязгасны — калгасны (Я. Крупенька). Гэтага дастаткова, каб сплесці даволі аб'ёмны ўрачысты верш.

Калі ж для твора патрэбна некаторая колькасць інтымнай лірыкі, можна выкарыстаць наступныя рыфмы: каса—раса (С. Законнікаў), любоў — салаўёў, я—салаўя (Я. Крупенька), слоў—салаўёў, вочы — ўночы (А. Мікула), вачах — начах (М. Чарняўскі), збочыць — уночы (В. Шыханцоў), люблю — зямлю, люблю—прытулю (М. Губернатараў).

Не бойцеся паўтарыцца. Гэта не перашкода для друкавання надзённага верша.

Васіль Дзеравяшка літаральна ў васьмі радках двух вершаў выкарыстоўвае адну і тую ж рыфму «людзей — дзень» («Чырвоная змена», № 108, 1971 г.). У гэтым ёсць нават нейкая пахвальная стабільнасць аўтарскага стылю.

Аднак сучасная паэзія патрабуе ад літаратараў-пачаткоўцаў не толькі новых рыфмаў, а і своеасаблівай пазнавальнасці. У сваіх вершах вы павінны гаварыць чытачу нешта новае, да вас не адкрытае. Напрыклад: зялёная трава, белы снег, белы свет, сасновы бор, родная вёска і г. д.

Назваць аўтараў я не адважваюся, бо з'явіцца шмат прэтэндэнтаў на першавынаходства гэтых эпітэтаў. Выключэнне можна зрабіць толькі для В. Лыскаўца, які па-новаму зірнуў на трактары, назваўшы іх «коні стальныя» («Чырвоная змена», № 39, 1972 г.).

Калі ж ваша неабсяжнае паэтычнае нутро прагне размаху, звяртайцеся да глыбокіх філасофскіх паняццяў, як гэта выдатна робіць Я. Крупенька, раскрываючы чытачам сэнс слова «цішыня»:

**«...люблю цішыню...**
**калі змаўкае вецер,**
**калі на буслоўцы**
**заціхне клён...**
**І на балоце**
**не квакаюць жабы,**
**І толькі камар**
**дзынькае на адной**
**ноце»...**

(«Чырвоная змена», № 23, 1972 г.)

Калі ж усе гэтыя парады не дапамогуць вам надрукаваць свае вершы, скарыстайце апошні, але самы надзейны сродак: дакументальнасць. Не пішыце, напрыклад, «вёска мая», а «вёска Сінягова Мінскай вобласці», не «ты так моцна сціскаеш плечы», а «Адаська Анейчыкаў прыйшоў да мяне».

Як апошні ратунак, пакіньце для сябе рубрыку «Мама, пачытай».

Выкарыстаўшы ўсе гэтыя парады, вы зможаце стаць вядомымі ў паэтычным свеце.

## ГЭТЫ МАЛА ЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

**Па прапанове нашых чытачоў — настолькі ж падкаваных у мудрагелістых правілах мовазнаўства, наколькі дасціпных — крышку ўдакладняем назву нашага слоўніка. Цяпер яна будзе больш адпавядаць сутнасці. Ці не праўда?**

*Акрэсліць—пасадзіць госця ў крэсла.*

*Бакеншчык — чалавек з абшчыканымі бакенбардамі.*

*Баракамера — шлях п'яніцы (з бара ў камеру).*

*Бязвінны (гандл.) — гастраном на сучасным этапе.*

*Грэбень — грэблівы чалавек.*

*Дамастрой (архітэкт.) — вуліца.*

*Дзяжа (пед.) — прыхільніца выхавання дзягай.*

*Завершаны (журн.) — рэдактар, закіданы вершамі.*

*Кашалёк (мед.) — лёгкі кашаль.*

*Крывашып (жарг.) — злосны крытыкан.*

*Курэц (заал.) — малады пеўнік.*

*Ласун — майстар закідваць ласо.*

*Лекала (мед.) — урач.*

*Матацыкл (жарг.) — набор слоў у аматара лаянкі.*

*Парасон (быт.) — ложак на дваіх.*

*Пашыбаваць (размоўн.) — выбіць шыбу.*

*Пераплёт — разносчык плётак.*

*Рызман (рэліг.) — поп.*

*Стыляга — стылізаваная баба Яга.*

*Удакладніць (канц.) — замарыць дакладам.*

*Чатырохкутнік — дамасед.*

*Шкаляр (тэхн.) — наглядчык за прыборамі.*

Н. ГАРАГЛЯД, С. ДУБОВІК, П. САКОВІЧ, М. САКОЛЬЧЫК.

Міхась СКРЫПКА

## *МНЕ ДАЎНІНА, ЯК ЦАЛІНА*

*Уладзіміру КАРАТКЕВІЧУ*

**Адных герояў да нябёс**
**Узносяць, нібы родных,**
**А мой расхрыстаны Хрыстос**
**Спусціўся глуха ў Гродна.**

**За ім, нібыта на пароль,**
**З мінуўшчыны выходзяць**
**Бунтар Кастусь і Стах**
**кароль**
**І ў крытыцы мне шкодзяць.**

Ежы ВІТЛІН

## ЯК БЛІСНУЦЬ ЭРУДЫЦЫЯЙ У ТЭАТРАЛЬНАЙ РЭЦЭНЗІІ

Некалі мне гаварыў Брэхт:

— Ведаеш, калі б я ставіў гэтую п'есу, то ставіў бы яе зусім інакш.

Цяжка не прызнаць рацыі Брэхта, хаця і наўрад ці можна з ім згадзіцца. Памятаю, што стары Вахтангаў у такіх абставінах не гаварыў нічога. Але Вахтангаў — гэта ўжо іншая эпоха, пра якую Пітэр Брук увогуле не выказваўся, хоць я яго некалькі разоў і распытваў. Ці слушна ён прамаўчаў? Цяжка сёння адказаць на гэтае пытанне, не прыняўшы пад увагу, кім і ў якіх акалічнасцях яно было зададзена. Гісторыя тэатра ведае такія пытанні (нагадаю хоць бы вядомую сцэну з пытаннямі, пастаўленымі Арыстафану, ці не меней вядомую сцэну з адказамі Пінтэра). Узнікае аднак пытанне, ці ўвогуле варта задаваць такія пытанні? Я неяк прымаў удзел у такім вечары без пытанняў і адказаў. Дакладна ўжо не памятаю, ці было гэта ў Віларэ, ці ў Казана, бо і з адным, і з другім я сустракаўся часта, з розных выпадкаў... Яшчэ і сёння я пад уражаннем таго цудоўнага вечара, пра які, зрэшты, цёплым словам успамінае ў сваіх неапублікаваных мемуарах Бернард Шоў, хоць на тым вечары ён ніколі не быў. Але вядома, Шоў — стары жартаўнік. Добра памятаю, што іменна гэта адрознівала яго ад О'Ніла, які таксама кпіў і гаварыў з'едліва, але, як ужо некалі напісаў Арто, «насмешка насмешцы не раўня», а ад сябе дадам, што гэта стасуецца і да кпінаў. Зрэшты, як усім вядома, англасаксонскае пачуццё гумару выглядае крышку інакш з перспектывы Лондана, чым з перспектывы Нью-Йорка, хоць паміж гэтымі сталіцамі існуе непасрэдная авіясувязь, паслугамі якой я неаднойчы карыстаўся. Ці дарэмна? Я сам задаваў сабе гэтае пытанне, шукаючы адказ на яго на падмостках Улан-Батара і яшчэ некалькіх сталіц. Але кожны чалавек тэатра — а іменна такім, нягледзячы на ўсё, я сябе лічу — добра ведае, што ў святле рампы, калі на нас пачынае эманаваць тая сіла, часткай якой мы з'яўляемся не з сённяшняга дня, часта цяжка нават спрабаваць адказаць на такое пытанне. Зусім гэтак жа было і са мной у той вечар, калі на сцэне...

*...У гэтым месцы мы ўпісваем тытулы тэатра, прозвішча аўтара і назву п'есы — для таго, каб рэцэнзенты, якія будуць цытаваць нас, маглі дакладна спасылацца на крыніцу.*

Пераклад з польскай.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 32-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19 бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.